

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 595 Лістапад - Сьнежань
2012 г. Год выданьня 63

## Паважаныя чытачы!

Вітаем вас у чарговым нумары нашай газэты. Гэтым разам ён выходзіць здвоеным, за апошнія два месяцы сьцякаючага году – лістапад і сьнежань. За гэты час адбылося шмат адметных падзеяў, менавіта на гэты перыяд году прыпадаюць шмат сьвятаў, як нашых беларускіх, так і агульначалавечых і амэрыканскіх

Адчыняем мы яго віншаваньнем з вялікім сьвятам, якое адзначаем штогод у лістападзе – Днём ушанаваньня памяці герояў Слуцкага збройнага чыну. Адзначаўся ўрачыста гэты дзень патрыётамі ў Беларусі і паўсюдна ў беларускіх асяродках на чужыне. Прыклад Случчакоў натхняе нас і сёньня на не менш жорсткае змаганьне за волю Бацькаўшчыны. З думкаю пра лепшую будучыню Беларусі зьбіраліся напачатку лістапада ў Вільні вядомыя беларускія грамадзкія і палітычныя дзеячы на сустрэчу са старшынёю Рады БНР Івонкаю Сурвілла. Прыняты ў выніку сустрэчы Мэмарандум мы падаем дзеля вашага інфармаваньня, а, магчыма, і дзеля далучэньня да ліку тых, хто яго падпісаў.

Амэрыканскія беларусы напрыканцы лістапада адзначылі разам з цэлаю краінаю папулярнае амэрыканскае сьвята – Дзень падзякі, гэтым разам нават у супольнай грамадзе.

Знойдзеце таксама ў газэце інфармацыі пра іншыя падзеі ў жыцьці беларускай грамады ў Амэрыцы і беларускіх суполак ў замежжы. Адметна, што ў гэтым выпуску ёсьць і аналітычныя развагі, меркаваньні, уражаньні нашых чытачоў, якія знайшлі час напісаць у газэту. Запрашаем браць прыклад з іх і нашых іншых сяброў, якія хацелі б падзяліцца сваімі думкамі.

Снежань – асаблівы час, гэта чаканьне і падрыхтоўка да Сьвята Божага Нараджэньня, да сустрэчы Новага году, час падсумаваньня вынікаў пражытага за 2012 год і будаваньня плянаў на будучыню . На старонках газэты мы падаем сьвяточныя віншаваньні і пажаданьні. Нагадваем нашым чытачам, што ў новым годзе газэта будзе патрабаваць як вашай фінансавай падтрымкі, так і вашага актыўнага ўдзелу ў напаўненьні яе зьместам.

Да сустрэчы ў новым 2013 годзе!

*Рэдакцыя*

## ДЗЕНЬ ГЕРОЯЎ

*да 92-х угодкаў Слуцкага паўстаньня*

Атава, лістапад 2012 г.

**Дарагія Суродзічы!**

Як і кожны год, у лістападзе думкамі нашымі мы пераносімся на Случчыну. Прыпамінаюцца дзесяць тысяч адважных Случчакоў, для якіх доля Айчыны была важнейшай за ўсё іншае, уключна з жыцьцём. Прыпамінаецца аповесьць Васіля Быкава «На чорных лядах», якую варта прачытаць у гэты час або перачытаць яшчэ раз.

Сэрца баліць пры думцы пра Случчакоў, бо варожая сіла ў канцы перамагла герояў. Ды ня толькі перамагла іх, але й зьняволіла наш край на 70 гадоў, і яшчэ ўсё ня можам яе пазбавіцца. Але Случчакі тады ўжо -- 92 гады таму – зразумелі цану свабоды, тады ўжо вырашылі, што яны хочуць жыць вольнымі на сваёй зямлі.

І прыпамінаючы іхнюю адвагу й іхнюю веру ў БНР і ў свае сілы, сэрца напаўняецца любоўю, удзячнасьцю й надзеяй, што наш народ знойдзе й сёньня ў сабе адвагу й сілу абараніць Бацькаўшчыну ад новай пагрозы з Усходу.

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі віншую вас, дарагія суродзічы, з угодкамі гэтай вялікай падзеі – Слуцкага Збройнага Чыну, бо ўсе мы маем права ганарыцца ім. Усе мы Случчакі ў гэты восеньскі месяц.

**Жыве Беларусь!**

*Івонка Сурвілла*
*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

## У Беларусі адзначылі гадавіну Слуцкага збройнага чыну




Актывісты КХП-БНФ 25 лістапада наведалі месцы, дзе праходзілі баі слуцкіх паўстанцаў з часткамі Чырвонай арміі.

*(Заканчэньне на 2-й бачыне)*

# У Беларусі адзначылі гадавіну Слуцкага збройнага чыну




*(Заканчэньне з 1-й бачыны)*

Удзельнікі ўрачыстасцяў пабывалі ў вёсцы Грозава. Там каля памятнага крыжа прагучала пасланьне з нагоды гадавіны Слуцкага збройнага чыну ад лідэра Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ Зянона Пазьняка. Далей узяў слова выконваючы абавязкі старшыні партыі Юрась Беленькі. Ён адзначыў вялізны ўплыў тых падзей, якія адбываліся ў Слуцку і ваколіцах у 1920 годзе для незалежнасьці Беларусі:

«Ужо тады жыхары Слуцкага павета разумелі, што расейскі бальшавізм - гэта чужая, варожая філасофія для беларусаў, і аддалі свае жыцці, каб не дапусціць на нашую зямлю гэтую пагрозу. Сёння мы не павінны ахвяраваць жыццямі, але многае можам зрабіць. Тое, што вы тут, што гаворыце па-беларуску, што трымаеце ў руках бел-чырвона-белыя сцягі, - гэта таксама барацьба, гэта працяг таго, што распачалі тут 92 гады таму».




*Прамаўляе Юрась Беленькі*

# СЬЦЯГ І МЕЧ

Дарагія землякі, паважаныя Беларусы, спадарыні і спадары!

Сёньня зноў, як заўсёды, мы адзначаем угодкі Слуцкага Збройнага Чыну і шануем памяць слуцкіх змагароў. Мы шануем іх мужнасьць, славу і барацьбу за вольную незалежную Беларусь. Сёньня іхняе змаганьне ёсьць для нас ідэйным прыкладам, падмуркам і напамінкам, бо наша Бацькаўшчына, што апынулася пад акупацыяй антыбеларускага рэжыму, усьцяж у небясьпецы.

Случакі змагаліся пад Бел-Чырвона-Белым Сьцягам за беларускія ідэалы волі, свабоды, незалежнасьці, народнасьці і дэмакратыі. Гэта было народнае рушэньне і народная барацьба за ідэі, прагалошаныя Беларускай Народнай Рэспублікай. У 1980-х гадах народныя ідэалы і Сьцяг Волі пераняў Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» і дасягнуў усталяваньня рэальнай дзяржаўнай незалежнасьці краіны.

Але ўлада, нажаль, засталася ў руках савецкай каланіяльнай адміністрацыі і былой камуністычнай намэнклятуры. Гэта яны ўпусьцілі ў Беларусь ворагаў нашай незалежнасьці і культуры, паспрыялі захопу ўлады антыбеларускім сілам і самыя ўключыліся ў антыбеларускую палітыку рэжыму.

Антынародны рэжым завёў краіну ў тупік, выклікаў гуманітарную катастрофу грамадзтва і, каб яшчэ трохі праіснаваць, гатовы па кавалках распрадаць і дзяржаву.

Але, вядома, што ліквідаваць антыбеларускі рэжым і ўратаваць краіну можна толькі з тымі ідэаламі і пад тым Сьцягам, пад якім змагаліся і памiралі за Беларусь слуцкія ваяры.

Цяпер гэты Сьцяг падняты. Бачце і далучайцеся! Бачце і выбірайце!

І добра, што выбар адбываецца.

Памятайма пра нашых змагароў за вольную Бацькаўшчыну, бо Беларусь ужо ёсьць незалежная і будзе незалежная. Цяпер краіна не свабодная, але будзе свабодная.

Перамагаюць ня тыя, што гавораць пра свабоду і адначасна абымаюцца з ворагамі свабоды, а тыя, што трымаюць у адной руцэ свабоды Сьцяг, а ў другой – меч.

Вучымся духу ў слуцкіх ваяроў. Не забывайма пра іхны патрыятычны чын. Яны не баяліся мільённай бальшавіцкай арды і ня думалі пра сьмерць, але толькі пра волю і прышласьць Айчыны. Гэта высокародна і годна павагі. Ім шанаваньне і добрая памяць!

*Зянон Пазьняк*
*25 лістапада 2012 г.*



***Як вядома, 3 лістапада ў Вільні па ініцыятыве Рады БНР адбылася нарада кіраўнікоў беларускіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў са старшынёй Рады сп.Івонкай Сурвілла. У выніку сустрэчы быў прыняты выніковы Мэмарандум, падпісаны удзельнікамі нарады. Падаем поўны тэкст дакумэнту, які адкрыты для падпісаньня.***

## ВЫНІКОВЫ МЭМАРАНДУМ

НАРАДЫ СТАРШЫНЯЎ І КІРАЎНІКОЎ БЕЛАРУСКІХ ПАЛІТЫЧНЫХ І ГРАМАДЗКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ СА СТАРШЫНЁЙ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

## АБ ЗАХАДАХ ДЛЯ ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

3 ЛІСТАПАДА 2012 г., м. ВІЛЬНЯ

Мы, ніжэйпадпісаныя прадстаўнікі палітычных і грамадзкіх арганізацыяў Беларусі, на сходзе 3-га лістапада 2012 году ў Вільні пад эгідай, пры паразуменьні і ва ўзаемадзеяньні са Старшынёй і сябрамі Прэзыдыюму Рады БНР:

- усьведамляючы небясьпеку, якая паўстала ў выніку паступовае страты структураю дзяржаўнай улады ў Рэспубліцы Беларусі, па меры яе ператварэньня ў прыладу рэжыму асабістай улады А. Лукашэнкі, рысаў беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці й функцыяў гарантаваньня беларускага нацыянальнага сувэрэнітэту;
- перакананыя, што суб'ектам і першасным гарантам незалежнай дзяржаўнасьці Беларусі і нацыянальна-культурнай пэрспэктывы беларусаў ёсьць сам беларускі народ, які павінен сьцьвярджаць сваю палітычную волю ва ўмовах свабоды;
- разглядаючы справу захаваньня і паўнавартаснай адбудовы сувэрэнітэту беларускага народу ў нашай нацыянальнай бацькаўшчыне як мэту, што яднае палітычную супольнасьць у Беларусі і беларусаў ва ўсім сьвеце, пагадзіліся ў наступным і прымаем узаемныя абавязкі дзеля наступнага:

(1) Зарукай забесьпячэньня беларускага нацыянальнага сувэрэнітэту будзе аднаўленьне мэханізму прыняцьця беларускім грамадзтвам свабодных і абгрунтаваных рашэньняў аб сваёй палітычнай будучыні, што запатрабуе дэмантажу аўтарытарнага рэжыму. Як найхутчэй маюць быць прынятыя меры засьцярогі ад паўторнага надыходу аўтарытарызму і злоўжываньня ўладай.

(2) Трэба дамагацца як найшырэйшага прызнаньня міжнароднай супольнасьцю, што Аляксандар Лукашэнка і дзяржаўныя органы пад ягоным кантролем, пры адсутнасьці дэмакратычнай легітымнасьці, ня ёсьць правамоцным і дзеяздольным прадстаўніцтвам Беларусі, асабліва у разе прыняцьця ад імя Беларусі абавязкаў і пагадненьняў з наступствамі, якія абмяжоўваюць ці абцяжарваюць яе сувэрэнітэт або датычаць распродажу дзяржаўнай маёмасьці. Гэткія пагадненьні ня будуць абавязковыя для дэмакратычнай беларускай дзяржавы ў будучыні, а стануць прадметам перагляду і магчымага скасаваньня або карэкцыі.

(3) Неабходная каардынацыя намаганьняў грамадзкіх і палітычных арганізацыяў, у т.л. беларусаў замежжа, для супрацьстаяньня афіцыйнай прапагандзе, якая зьнішчае беларускую нацыянальную сьвядомасьць, і для ўмацаваньня ў беларускім грамадзтве ўсьведамленьня каштоўнасьці сувэрэннага нацыянальнага існаваньня.

2 з 3

(4) Павінен быць мацнейшы скаардынаваны ціск палітычнай і грамадзянскай супольнасьці ў краіне і за яе межамі дзеля зьмяншэньня ў беларускім грамадзтве пачуцьця страху, найперш вызваленьня і рэабілітацыі палітычных вязьняў, спыненьня палітычных рэпрэсіяў і дэмантажу рэпрэсіўнага апарату, свабоды для сродкаў масавай інфармацыі, а ўрэшце – правядзеньня свабодных выбараў. Выкананьне гэтых умоваў дазволіць Беларусі выйсьці зь міжнароднай самаізаляцыі, адкрые магчымасьці дзеля падвышэньня дабрабыту народу і ўмацаваньня сувэрэнітэту праз належны ўдзел у сыстэме міжнародных дачыненьняў.

(5) Неабходна дамагацца гарантыяў непарушнасьці беларускага нацыянальнага сувэрэнітэту з боку краінаў Эўрапейскага Зьвязу, Злучаных Штатаў Амэрыкі і Расейскай Фэдэрацыі, непрызнаньня міжнародна-праўнай сілы любых небясьпечных для сувэрэннага статусу Беларусі рашэньняў, якія ад яе імя можа зрабіць аўтарытарнае кіраўніцтва, а таксама непрызнаньня легітымнасьці любых шкодных для сувэрэнітэту Беларусі правоў і прывілеяў, якія Расейская Фэдэрацыя можа сьцьвярджаць ці дамагацца ў Беларусі на грунце дактрыны “зоны асаблівых інтарэсаў”.

(6) Дзеля забесьпячэньня сувэрэнітэту ад рызыкаў крызіснага і пераходнага пэрыяду ў абставінах каляпсу аўтарытарнага рэжыму неабходна распрацаваць і палітычна ўзгадніць супольны пакет першачарговых палітычных, эканамічных і юрыдычных захадаў у галіне энэргэтычнай і харчовай бясьпекі, культурна-інфармацыйнай палітыкі, забесьпячэньня адміністрацыйнай кіравальнасьці ва ўмовах пераходу да дэмакратыі, барацьбы з карупцыяй і арганізаванай злачыннасьцю, а таксама забясьпечыць максымальную падтрымку, якую можна мабілізаваць з боку прыхільных гэтым мэтам дзяржаваў і міжнародных арганізацыяў.

(7) Удзельнікі нарады зь Беларусі пацьвярджаюць прызнаньне Рады БНР у яе статутнай ролі непартыйнага, надпалітычнага органу беларускай гістарычнай дзяржаўнасьці, будуць імкнуцца каардынаваць з Радай БНР працу дзеля дасягненьня вышэйзгаданых супольных задачаў, будуць разьлічваць на адпаведнае садзеяньне і падтрымку з боку Рады БНР, будуць спрыяць Радзе у яе дзейнасьці дзеля канчатковага спаўненьня свайго гістарычнага мандату.

(8) Да часу надыходу статутных умоваў складаньня Радай БНР свайго гістарычнага мандату, г. зн. абраньня дэмакратычнае ўлады на свабодных выбарах, пры гарантаванай дзяржаўнай незалежнасьці, прадстаўнікі беларускай палітычнай і грамадзянскай супольнасьці прызнаюць Раду БНР рэзэрвовым палітычным дэпазытарам беларускай незалежнай дзяржаўнай традыцыі.

Старшыня і сябры Прэзыдыюму Рады БНР пацьвярджаюць адданасьць Рады мэце спаўненьня свайго статутнага мандату. Да часу заканчэньня свайго мандату Рада БНР можа адыгрываць таксама іншыя ролі, да якіх была б належна пакліканая беларускай палітычнай супольнасьцю і грамадзтвам.

Беларускія палітычныя і грамадзкія арганізацыі і Рада Беларускай Народнай Рэспублікі маюць намер забясьпечваць у маштабе ўсясьветнай беларускай супольнасьці палітычную ды інфармацыйную каардынацыю, а таксама спрыяць адпаведнаму ўзаемадзеяньню рэсурсаў сваіх арганізацыяў і органаў на ўсіх узроўнях, у Беларусі і ў вонкавых кантактах, у рэалізацыі супольных і (ці) скаардынаваных захадаў дзеля захаваньня нацыянальнай незалежнасьці ў абставінах самаізаляцыі, крызісу і дэмантажу аўтарытарнага рэжыму ў Беларусі.

Подпісы прадстаўнікоў арганізацыяў у альфабэтным парадку:

*Барадач У., Аргкамітэт “Савету нацыянальнага адраджэньня”*
*Вячорка В., Аргкамітэт “Беларускага Руху”*
*Дабравольскі А., Аб’яднаная грамадзянская партыя*
*Дземідзенка М., “Малады Фронт”*
*Карач В., ГК “Наш Дом”*
*Колас У., Рада беларускай інтэлігенцыі*
*Мілінкевіч А., “Рух “За Свабоду”*
*Шушкевіч С., Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада*
*Янукевіч А., Партыя БНФ*
*Сурвілла І., Старшыня Рады БНР*

# Ушанаваньне памяці ахвяраў Галадамору



Сёлета споўнілася 80 гадоў адной з самых змрочных старонак новай гісторыі суседняй нам Украіны, якая сталася вядомаю пад назваю Галадамор. Гэта быў акт генацыду ў адносінах да насельніцтва Украіны, якая лічылася жытніцаю ў былым Савецкім Саюзе, але дзе ў 1932-33 гадах людзі масава паміралі ад голаду, штучна справакаванага камуністычнымі уладамі з мэтаю зламаць волю украінскага народу.

Штогод украінцы ў замежжы, а цяпер ужо і часткова ва Украіне, памінаюць бязьвінных ахвяраў Галадамору. У гэтым годзе падзея была адзначаная ў сувязі з юбілеем асабліва ўрачыста. 17 лістапада, у нядзелю, у Нью-Ёрку адбылося ўрачыстае шэсьце, у якім ўзялі удзел прадстаўнікі украінскай грамады паўночна- усходняй часткі ЗША. Яно пачалося ад вядомай у Нью-Ёрку украінскай грэка- каталіцкай царквы Сьв. Юры і скончылася перад Саборам Сьв. Патрыка. Пасьля гэтага ў Саборы Сьв. Патрыка, пры запоўненай цалкам ягонай вялізнай залі , прайшла экуменічная Паніхіда памяці ахвяраў Галадамору і жалобная праграма з прамовамі і зачытаньнем заяваў. У Паніхідзе бралі удзел йерархі і духавенства украінскіх грэка-каталіцкай і праваслаўнай цэркваў у ЗША. Надзвычайную ўрачыстасьць Багаслужбе надаў спеў нью-ёркскага украінскага хору “Думка”.

Пасьля Саборнай Паніхіды наступную частку ўрачыстасьцяў адчыніла прэзыдэнт Украінскага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі сп. Тамара Олексій. Менавіта гэтая арганізацыя 20 гадоў таму ініцыявала разам з украінскім духавенствам у Амэрыцы правядзеньне такіх імпрэзаў ушанаваньня памяці ахвяраў Галадамору. Зьмястоўную спачувальную прамову зрабіў сенатар ад штату Нью-Ёрк Чарльз Шумер, яна не раз перарывалася воплескамі падтрымкі. Ад Дзяржэпартамэнту выступіў сп. Вільям Поўп, які зачытаў адмысловую заяву ад прэс-сакратара Белага дому. Да прысутных таксама зьвярнуліся Мітрапаліт Украінскай Праваслаўнай Царквы ў ЗША Антоній і амбасадар Украіны ў ЗША сп. Олександр Моцік. Апошні прамаўляў, як выглядала, больш ад сябе асабіста і ніяк не згадаў імя украінскага прэзыдэнта Віктара Януковіча. Сёньняшнія украінскія ўлады не надаюць адпаведнай значнасьці трагедыі Галадамору і не прызнаюць тым самым злачынную сутнасьць камуністычнага рэжыму ў былым Савецкім Саюзе, які зьнішчаў цэлыя народы.



Як ужо высьветлена, Галадамор закрануў і іншыя народы СССР, у тым ліку і беларускі. Па гэтай прычыне і з мэтаю падтрымаць суседзяў, разам з імі смуткаваць з нагоды гадавіны трагедыі ўдзел у жалобнай цэрэмоніі бралі прадстаўнікі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, а таксама а. Леанід Акаловіч, якога запрасілі на сцэну быць прысутным на Паніхідзе побач з іншымі духоўнымі асобамі. Арганізатары ўсадзілі нас на пачэсныя гасьцявыя мейсцы ў першым радзе. Нашы бел-чырвона-белыя сьцяжкі прыцягнулі ўвагу і разам з імі мы трапілі на фота ва украінскай “Новай газэце” (№ 6 за 22 лістапада), якая падала рэпартаж з урачыстасьцяў. Былі мы ўсьцешаныя , што украінцы здолелі на такім высокім узроўні, годна адзначыць падзею, пра якую нельга забываць і пра што трэба інфармаваць грамадзтва Амэрыкі. Але, было нам і прыкра, што наша беларуская грамада наўрад ці змагла б арганізаваць нешта падобнае дзеля памяці ахвяраў трагічнай гісторыі нашай краіны і народа, а такіх сумных нагодаў і ў нас хапае.

*Ганна Сурмач*

# Дзень Падзякі па-беларуску

Жывучы ў Амэрыцы, мы – беларусы стараемся захоўваць сваю культуру, свае звычаі. Але, паволі прыладкоўваемся і да новага жыцьця, далучаемся да амэрыканскіх традыцыяў і сьвятаў. Сярод іх, як выглядае, набольш прыходзіцца да душы нашым суродзічам амэрыканскі Дзень падзякі (Thanksgiving Day ). У гэты дзень і нам ёсьць за што дзякаваць Богу, краіне, якая дала нам магчымасьць жыць тут, сваім бацькам , сябрам , усім добрым людзям, каго сустракалі мы на жыцьцёвым шляху. У Амэрыцы – гэта, найперш, сямейнае сьвята. Хто б дзе не быў далёка ад дому, імкнецца вярнуцца на сьвята да сваіх блізкіх, каб разам з імі пакаштаваць традыцыйнага індыка.

А што рабіць тым, хто не мае сям'і, ці не можа быць з роднымі ў гэты дзень, асабліва новым эмігрантам? Пра гэта сёлета задумаліся ў Бруклінскім аддзеле БАЗА. Так высьпела думка паклікаць на “індыка” сяброў аддзелу, каб адсьвяткаваць разам у грамадзка-царкоўнай залі на Атлянтык Авэню 401.

Такі вось першы сумесны Дзень падзякі і прайшоў 22 лістапада з удзелам моладзі і старэйшых. Вялізнага засмажанага па традыцыйнаму амэрыканскаму рэцэпту індыка хапіла на ўсіх прысутных. Прыгожа дэкаравалі сталы ў амэрыканскіх і беларускіх традыцыях. Побач з нашай бульбаю быў і салодкі амэрыканскі ямс, смак нашых журавінаў нагадваў крэнбэры соўс, чыста амэрыканскім быў толькі сьпечаны адмысловы пірог - пампкін пай. Завяршылі сьвята ўжо чыста па свойму, прагледзеўшы фільм “Пан Тадэуш” па Адаму Міцкевічу.

Здаецца гэты першы “блін” не стаўся комам і на наступны год таксама будуць жадаючыя разам адзначыць Дзень падзякі.

*Тацьцяна Красоўская*

# НЕПАДКУПНЫ КРОТ

*Алег Аблажэй*



Калі разабрацца, такога паняцця, як "застой", не існуе ўвогуле. Тое, што называюць застоем - - проста запаволеная, скрытая ад няўзброенага вока эвалюцыя.
Так бывае напрыканцы зімы -- здаецца, нічога не мяняецца, абрыдлы бруднаваты
сьнег ніколі не растане. Але ж мы ведаем, што вясна рана ці позна наступіць.
У тым - то і бяда, што невядома, наколькі позна і якой будзе тая вясна.
Гэтаксама і ў Беларусі -- амаль два дзесяцігоддзі, здаецца, не мяняецца нічога. Адна і тая ж вусатая пыса ў тэлевізары, той жа сіпаты голас па радыё...

Але, Беларусь 1994 і 2012 года -- не зусім тая самая краіна. Перамены адбываюцца, паволі, але няўхільна. Пытанне толькі, у які бок, і што прынясуць краіне.

Здаецца, стала ўжо банальнасьцю ва ўсім вінаваціць аднаго Лукашэнку. Тым часам, самазваны "бацька" -- гэта скула, фурункул, які не столькі хвароба сама па сабе, колькі сімптом, паказчык нядобрых працэсаў у грамадзкім арганізме.Прынамсі напачатку гэта быў сапраўды "народны прэзідэнт", квінтэсенцыя народных спадзяваньняў. Ці, як ён найлепей сам акрэсьліў, "вырадак з народа".

Што там казаць пра Беларусь -- успомнім ягоную шалёную папулярнасьць сярод расейскага плебсу ! І не толькі. Памятаю, некалькі гадоў таму была на Літоўскім радыё перадача, прысьвечаная "апошняму дыктатару". Інтэрактыўная, як цяпер модна. І быў шквал званкоў у студыю ад прадстаўнікоў тытульнай нацыі, не якіхсь там "русскоговорящих": што вы там плявузгаеце, нам бы такога прэзідэнта, які так клапоціцца пра свой народ ! Там жа парадак, вуліцы чыстыя, платы пафарбаваны, палі засеяны !

Зрэшты, Літва ўрэшце знайшла і свайго Лукашэнку -- былога расейскага электразваршчыка, а цяпер мільянера, Віктара Успаскіх, партыя якога паводле набраных галасоў выйшла на другое месца ў новым Сэйме Літвы. Таксама "просты", "свой хлопец", гаворыць на ламанай літоўскай мове, і абяцае, абяцае... З харызмай чалавек.

Апошнім часам пачалі з'яўляцца артыкулы з меркаваннямі, якой будзе Беларусь пасьля Лукашэнкі. А паколькі ніхто не верыць, што ён калі - небудзь сыдзе сам, то так і пішуць -- пасьля сьмерці. Я падумаў, што ён можа памерці толькі з адной прычыны -- са сьмеху, прачытаўшы гэткія тэксты. Не дачакаецеся! Жалезабетоннае здароўе плюс поўная адсутнасьць сумлення -- такія жывуць доўга. Прыкладам -- Фідэль Кастра.

Прарочыць цяжка, але цалкам верагодна, што Лукашэнка застанецца пры ўладзе яшчэ гадоў 15 - 20. Калі не будзе переменаў -- не ў Беларусі, а ў Крамлі, бо менавіта там захоўваецц «яйка» з сакрэтам жыцьцяздольнасьці нашага Кашчэя. Але, і перамены ў Расеі яшчэ не значаць зьмену яе стаўлення да незалежнасьці Беларусі. Вось у "Литературной газете" шчыруе яе любімы аўтар, гісторык Юрый Жукаў ( які праславіўся параўнаннем Сталіна не з кім іншым, а з самім
Хрыстом.) А цяпер гэты так званы навуковец папракае свайго куміра ў тым, што той дапусьціў недаравальную памылку -- дазволіў у межах СССР нацыянальныя аб'яднанні, што ў рэшце рэшт і прывяло да яго развалу. Пасьля глыбакадумных развагаў пра тое, што беларуская і украінская мовы -- гэта толькі дыялекты расейскай, ён раіць, як пазьбегнуць былых памылак у будучыні, пасьля "воссоединения":
"Хочешь говорить на национальном языке ? Пожалуйста, дома, в кругу друзей
и в первых классах школы, пока не овладеешь русским! ... И за любые
нарушения -- карать !"

І на Захадзе Лукашэнка сур'ёзных ворагаў не мае -- для цывілізаванага сьвету
ён проста "фрык", дзівак, экзот, небясьпечны толькі для ўласнага народу. Трэба,
вядома, для заспакаення сумлення час ад часу паўтараць рытуальныя "патрабаванні" і "асуджэнні" ды ўводзіць гэткія ж "санкцыі". Але не больш.

У самой жа Беларусі Лукашэнку не пагражае зусім нічога -- апазіцыя, апроч
даўняга аздаблення сябе двухкоссямі, здаецца, занялася канчатковай самаліквідацыяй.

А сакрэт "бацькавай" моцы просты і эфектоўны, як лом -- штогод адбіраць
тысячы здаравенных маладзёнаў, адкормліваць іх, апранаць у мярзотную плямістую форму, выдаваць дубінкі, шчыты і круглыя шаломы заместа галоваў, -- і
нацкоўваць на ўсіх, хто яшчэ хоць неяк супраціўляецца. Для гэтага "байцам" папярэдне выразаюць любыя маральныя сумневы.Маральныя кастраты -- галоўная апора любой дыктатуры. А менавіта з гэткіх і складаецца ўся "вертыкаль". А ў дапамогу вышэйсказанаму -- густы паток дэмагогіі аб клопаце пра народнае шчасьце.

Так што аўтары артыкулаў пра сьмерць Лукашэнкі у адным маюць рацыю -- адзіны на дадзены момант вораг дыктатара, суровы і няўмольны, -- апаптоз, працэс
натуральнага адмірання клетак арганізму. Усё больш і больш аблазіць лысіна, растуць мяшкі пад вачыма, слабее зрок... І не выратуюць ад гэтага ні "сілавікі", ні"сексоты", ні нават верная Ярмошына!..

Ёсьць яшчэ рамантыкі, якія не перастаюць верыць у сілу і духоўную моц народу, які заўсёды і ва ўсім мае рацыю. Гэта павялося яшчэ з XIX стагоддзя, з легендаў пра "народ - баганосец". А потым гэты "баганосец" паказаў сябе пасьля рэвалюцыі -- палячы маёнткі, руйнуючы цэрквы і рэжучы "белую косьць".

Безумоўна, у Курапатах ляжаць простыя людзі, але ім у патыліцы стралялі таксама не арыстакраты. Народ -- як палітра, на якой ёсьць усе фарбы, ад самых сьветлых, да самых змрочных. Якому мастаку трапіць у рукі, такая і будзе карціна.

Ля вёскі, у якой я вырас, быў калісь маёнтак пана са славутага роду Ёдкаў. Старэйшыя людзі не маглі пра яго ўспомніць нічога кепскага. Тым не меньш, "просты народ", як толькі прыйшлі бальшавікі, тут жа разрабаваў на могілках капліцу, пастаўленую панскай сям'ёй у памяць заўчасна памерлай адзінай дачкі. Раскапалі і зьбэсьцілі саму магілу, разьбілі мармуровы бюст, выдзерлі вокны, сарвалі дах, нават плітку з падлогі намагаліся выламаць, -- не ўдалося. Сам палац, вядома, урачыста спалілі. А калі прыйшла "перабудова", і зьверху было сказана, што верыць у Бога
добра, практычна тыя ж самыя людзі як умелі, аднавілі каплічку. Ходзяць, моляцца... Пакаяліся? Каб жа так... Калі не стала маіх бацькоў, іх хату разрабавалі гэтаксама, як тую каплічку, -- тут жа вынесьлі ўсё: мэблю, посуд, абразы, нават электраправодку трыццацігадовай даўнасьці садралі...

Спрабаваць падняць насельніцтва ў ягоным цяперашнім стане на абарону беларускай мовы, бел - чырвона - белага сьцяга і Пагоні, -- усё роўна што намагацца спакусіць імпатэнта эратычным каляндарыкам.

Бадай што ніколі за ўсю гісторыю беларускі народ як нацыя не стаяў так блізка ад ускрайку магілы, як цяпер. Былі акупацыі і прыгнёт, але заставаўся магутны пласт беларускамоўнага сялянства. Цяпер дашчэнту зрусіфікавана і яно. Адзіная надзея -- на інтэлігенцыю, на нешматлікіх самаахвярных "сьвядомых", чаму іх так шалёна і ненавідзіць Лукашэнка, гэты магільшчык Беларусі. Яны і толькі яны твораць цуд пераўтварэньня каламутнай вадзіцы насельніцтва ў
залатое віно нацыі. Безумоўна, без уладных рычагоў пераламаць сітуацыю ім не пад сілу -- гутарка ідзе пра паратунак ад гібелі, захаваньне агню. Больш спадзявацца няма на каго. Так, сьвядомых і самаахвярных мала -- але і першых хрысьціян таксама было няшмат.

Толькі настойлівая, упартая тэрапія, -- адукацыя і асьвета, няма іншай дарогі. Падручнікі гісторыі і мовы -- вось найлепшая зброя. І – уласны прыклад, кожны шчыры і сьвядомы мусіць стаць цэнтрам крышталізацыі, да якога пацягнуцца іншыя.

Вядома, усё вышэйсказанае не адмяняе іншых метадаў барацьбы, -- але без зьмены структуры, менталітэту грамадзтва яны ўсе дарэмныя. Калі б сёння адбыліся самыя сумленныя выбары -- дзе гарантыя, што не будзе выбраны новы клон Лукашэнкі?

Як асобны чалавек сілай духу здольны пераадолець нібыта невылечную хваробу,
так можа ўваскрэснуць і цэлы народ. Прыклады ёсьць -- хто цяпер паверыць, што чэшская мова была адроджана калісь нешматлікімі патрыётамі практычна з нуля? Дарэчы, усе гэтыя прыклады ( а такі не адзін!) трэба вывучаць і пераймаць досьвед.

Не трэба чакаць хуткіх вынікаў -- гэта нерэальна. Але варта памятаць, што гісторыя працуе на нас. Хай сабе і дваццаць гадоў -- для гісторыі гэта імгненне.

Крот гісторыі рые павольна. Нікому не ўдалося яго прысьпешыць, але і спыніць нікому не пад сілу. А гісторыя няўхільна адпраўляе дыктатараў аднаго за другім на сьметнік. Так будзе і Беларусі.

Але, трэба прыкласьці надзвычайныя высілкі, каб засталася сама Беларусь. А не толькі яе тэрыторыя.

# Запусты ў Гайлянд Парку




*У часе Літургіі*



*Уладыка Сьвятаслаў (справа) і ўзнагароджаны а. Зінові Жлобак*

18 лістапада 2012 г. у Царкве Сьвятое Жыровіцкае Іконы Божае Маці ў г.Гайлянд Парк (Нью Джэрзі) адбылася ўрачыстая Багаслужба з нагоды Запустаў на Калядны Пост. Увосені тут зьбіраецца найбольш парахвіянаў менавіта на Запусты, таму парахвіяльнымі ўладамі былі запрошаныя Першагерарх Беларускай Аўтакефальнай царквы Архіяпіскап Сьвятаслаў Логін з Таронта і Архіяпіскап Аляксандр Быкавец з Дэтройту (кіраўнічы Япіскап УАПЦ у ЗША), якія й узначалілі Літургію. У Багаслужбе таксама прынялі ўдзел пратаярэй а. Леанід Акаловіч (Менск, Беларусь), які цяпер служыць у Катэральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку, і сьвятары украінскіх Парахвій з розных штатаў ЗША (Нью Джэрзі, Нью Ёрк, Пэнсільванія, Мічыган).

У часе набажэнства кіраўнік Парахвіі ў Гайлянд Парку пратаярэй а. Зінові Жалобак за шчырую 15-гадовую пастырскую працу на ніве Хрыстовай ды з нагоды 90-гадовага і 70-гадовага юбілеяў Сабораў БАПЦ у Менску быў узнагарорджаны царкоўнай узнагародай – Крыжом з Прыкрасамі.

Уладыка Аляксандр прачытаў Дабравесьце па-беларуску, а ў канцы службы сказаў Казаньне. Уладыка Сьвятаслаў на завяршэньне узнагародзіў Нагароднымі Граматамі БАПЦ трох парахвіянаў, якія найбольш ахвярна працуюць дзеля дабра гэтае Парафіі :
спадара Віктара Дубягу – старшыню Парафіяльнае Рады, спадара Якуба Сапяжынскага – рэгента Хору, спадарыню Людмілу Бакуновіч – старэйшую сястру Сястрынства Парахвіі.



*Духавенства ў часе дабраслаўленьня абеда*

З сяброўскім візытам на Багаслужбу ў Гайлянд Парк прыехала прадстаўнічая група парахвіянаў Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага з Нью-Ёрку.

Настаяцель, а. Зінові, падзякаваў высокім гасьцям і парахвіянам за ўдзел у Багаслужбе і запрасіў усіх на абед у парахвіяльную залю, дзе былі падрыхтаваныя бліны, якія звычайна за беларускай традыцыяй пякуць на Запусты перад Калядным і Вялікім Пастамі. Прысутныя маглі паразмаўляць, абмяняцца навінамі. Пад час гэтага сяброўскага пасяджэньня была наладжаная лятарэя, сродкі ад якой пойдуць на патрэбы царквы. Разыходзіліся і раз'язджаліся ўсе ў добрым настроі ад прыемна і карысна праведзенага нядзельнага дня, а таксама з думкаю пачаць маральна рыхтавацца да Сьвята Божага Нараджэньня.

*Ганна Сурмач*



*Старшыня Параф. Рады Віктар Дубяга з ганаровай граматай ад Уладыкі Святаслава*

**Весткі з Канады**

# Паэтычная вечарына ў Атаве



27 кастрычніка 2012 года ў Атаве адбылася прэзентацыя адразу двух паэтычных зборнікаў атаўскага паэта Пётры Мурзёнка "Крыніца" (Менск, 2011) і "Пакуль нашыя анёлы лётаюць над акіянам" (Атава, 2012).

Пётра Мурзёнак нарадзіўся ў сям'і настаўнікаў у пасёлку Дунілавічы, на Пастаўшчыне. Дзяцінства прайшло ў вёсцы Дварчаны. Скончыў Менскі дзяржаўны медыцынскі інстытут. Доктар медыцынскіх навук, мае больш за паўтары сотні навуковых публікацый. Вершы, па словах аўтара, пачаў пісаць у 1995 годзе. Акрамя прэзентаваных кніг, мае зборнік вершаў "Быліна мая, Беларусь ", які быў выдадзены ў 2000 годзе.

Пётра Мурзёнак пазнаёміў сваіх чытачоў, якія ў гэты цёплы восеньскі вечар сабралася даволі шмат, са сваімі апошнімі вершамі, ў якіх акрэсліваецца цьвёрдая грамадзянская пазіцыя аўтара, адчуваецца трывога за стан беларускага слова, беларускай мовы, за лёс Радзімы.

*О, народзе, такі цяжкі шлях твой!*
*Ці мы будзем калі мець нагоду*
*Гаспадарыць у краі свабодным!*

У зборніках можна знайсці шмат лірычных і настальгічных настрояў, але, пры гэтым, здаецца, што аўтар ніколі не пакідаў сваю "родную старонку" і Радзіма заўсёды знаходзіцца побач: у думках, у марах, у памяці. Аўтар вольна падарожнічае па часе і прасторы, вяртаючыся то ў родную вёску, дзе некалі жыў сам, дзе жылі яго бацькі, то ў снежаньскі Менск 2010 года, то пераносіцца ў будучыню - у 2020 год на ўяўны сход продкаў у Чарэмушніках Падзісенных.

*А любімых мясцін не злічыць*
*ў родным краі,*
*Ад дзіцячых гадоў тыя вобразы маем,*
*Як жывыя штодня прадстаюць*
*прад вачыма,*
*Будзяць сэрца ўночы і днём –*
*бо Айчына.*

У многіх вершах Пятра Мурзёнка адчуваецца глыбокая сыноўская ўдзячнасць бацькам, якія ўсё жыцьцё былі побач, нават прыехалі да сыноў ў Канаду. Яны заўсёды прысутнічаюць на паэтычным полі аўтара. Адчуваецца, што гэтая любоў да бацькоў, да усіх сваіх продкаў натхніла паэта на напісаньне паэмы "Сказ пра Сільвестра" , у якой распавядаецца пра жыцьцё і лёс дзеда аўтара, Сальвука – так называлі дзеда ў вёсцы. Распавядаючы пра яго, аўтар умела ўпісвае ў тэкст пераказ старажытных беларускіх балад ("Сказ пра ваўкалака", "Сказ пра Плячку"), апісвае прыход у Сальвукову хату знакамітага беларускага мастака, фальклярыста, падарожніка Язэпа Драздовіча.

Акрамя паэтычных твораў, у кнізе "Пакуль нашыя анёлы лётаюць над акіянам" шырока прадстаўлены артыкулы, інтэрв'ю, тэксты выступаў аўтара, пачынаючы з 1993 года. Кніга мае шмат фотаздымкаў, якія адлюстроўваюць жыцьцёвы шлях Пётры Мурзёнка.

Вечарына прайшла па-сяброўску цёпла, прыемна, прымусіла на некаторы час забыцца пра тое, што ўсе прысутныя знаходзяцца далёка ад Беларусі, так усё было па-роднаму, па-беларуску.

*Юрась Шамецька*
*Атава, Канада*

# У Антарыё беларусы танчылі «Ойру»

У канадзкай правінцыі Антарыё прайшоў штогадовы, цяпер ужо 40-ы, Тыдзень ESL – English Second Language – своеасаблівае сьвята вывучэньня ангельскай мовы эмігрантамі і ўцекачамі.

Праз сыстэму ESL прайшлі многія канадзкія беларусы, а таксама прадстаўнікі многіх іншых народаў. Навучаньне для эмігрантаў і ўцекачоў у рамках гэтай сыстэмы бясплатнае, працягласьць і інтэнсіўнасьць залежаць ад узроўню, якім яны хочуць авалодаць.

Былы мянчук Зьміцер Леановіч жыве ў Таронта крыху больш за год. На моўныя заняткі праграмы ESL ён разам яшчэ з двума хлопцамі зь Беларусі пайшоў адразу пасьля прыбыцьця ў Канаду. Кажа, што калі прыехаў, то меў узровень ведаў, які дае звычайная менская школа: «Прывітаньне», «Як справы?» і г.д. Лічыць, што пасьля году навучаньня можа размаўляць і нават слухаць лекцыі.

Паводле словаў Зьмітра, сапраўдным сьвятам для навучэнцаў і настаўнікаў школы становяцца штогадовыя Тыдні ESL. З кожным годам яны набываюць усё большую папулярнасьць, ператвараюцца ў дэманстрацыю розных нацыянальных культур, а таму выклікаюць цікавасьць ня толькі ў новых канадцаў.

У сёлетнім мерапрыемстве, расказвае Зьміцер, узялі ўдзел 44 нацыянальныя суполкі. У імправізаваных нацыянальных залях былі прадстаўленыя стэнды з фотамі, кнігамі, прадметамі народнага побыту той ці іншай краіны, гучалі песьні і танцы розных народаў. Многія наведнікі былі ў захапленьні ад танца «Ойра» ў выкананьні гурту беларускіх канадцаў. Дзякуючы гэтаму мерапрыемству шмат хто ўпершыню адкрыў для сябе дагэтуль невядомую ім Беларусь.

*11.11.2012*



**Сьпявае кіраўніца Беларуска-Канадзкага альянсу Валянціна Шаўчэнка**



**Беларусы танчаць "Ойру"**

# З Раством Хрыстовым і Годам новым!

## Паважанае Спадарства!

***Парафіяльная Рада і Сьвятарства Беларускага Праваслаўнага Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку віншуюць Вас са сьвятам Нараджэньня Хрыстовага – КАЛЯДАМІ і жадаюць усім смачнае куцьці, вясёлых сьвятаў і шчасьця ў Новым 2013-м Годзе !***

**Запрашаем у храм Божы на Набажэнствы :**

*Студзень – **2013** – January*

**6 нд. Нядзеля перад Калядамі** - Літургія 10:00 раніцы
Сьвяты Вечар Вял. Павячорра 5:00 вечара
КУЦЬЦЯ 6:00 вечара

**7 пн. К А Л Я Д Ы** - Літургія 10:00 раніцы

**13 нд. Нядзеля пасьля Каляд**аў - Літургія 10:00 раніцы
КАЛЯДНАЯ ЯЛІНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ 12:00 дня

**19 сб. В А Д О Х Р Ы Ш Ч А** - Літургія 10:00 раніцы і Вялікае асьвячэньне вады

**20 нд. Нядзеля пасьля Вадохрышча** - Літургія 10:00 раніцы

***Абыход сьвятаром са сьвянцонай вадой памешканьняў парафіянаў у г. Нью Ёрку і ваколіцах будзе адбывацца з 19 да 27 студзеня – па запросінах.***

St. Cyril of Turau Cathedral ,
401 Atlantic Ave, Brooklyn, NY 11217, USA
Tel: 1.718.858 2435 , www.belapc.org

## Галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

**віншуе сяброў БАЗА, беларусаў на Бацькаўшчыне і ў замежжы са Сьвятамі Калядаў і прыходу Новага году.**

Кожны год у такія сьвяточныя дні мы чакаем цудаў, азіраемся ў мінулае і спадзяемся на лепшую будучыню. Не ўсе нашыя мары і надзеі потым збываюцца, але ж тое, што адбываецца прыносіць нам новыя здабыткі і жыцьцё нашае рухаецца наперад, робіцца больш дасканалым і поўным.

Жадаем вам, дарагія суродзічы, сябры і палечнікі сьветлай і плённай дарогі ў новы перыяд жыцьця. Добрага здароўя, асабістага шчасьця, шмат радасьці вам і вашым родным і блізкім! Няхай Сьвята Божага Нараджэньня асьвеціць вашае жыцьцё ласкаю і цяплом, ахіне ад злога і пакажа дарогу да лепшага заўтра!

Жадаем мы добрых пераменаў Бацькаўшчыне нашай, беларускаму народу, каб пазбавіўся ён ад змрочных путаў дыктатарскага рэжыму, каб здабыў нарэшце свабоду і стаў сам гаспадарыць у сваёй шматпакутнай краіне! А ўсім нам – беларусам на Радзіме і ў замежжы, жадаем сілы волі, упартасьці ў змаганьні за тое, каб гэтыя нашы спадзяваньні збыліся!

**Жыве Беларусь!!!**







## СА СЬВЯТАМІ І НОВЫМ 2013 ГОДАМ ВАС ДАРАГІЯ НАШЫЯ СЯБРЫ І АДНАДУМЦЫ!

З радасьцю і верай будзем адзначаць іх сярод сваіх семьяў і блізкіх, але не забудзем пры гэтым, што ня мала нашых людзей, сапраўдных беларускіх патрыётаў на Бацькаўшчыне , пазбаўлены волі, альбо знаходзяцца на ўліку спецорганаў антыбеларускага рэжыма.

Амаль дваццаць гадоў захоўваецца там палітыка русіфікацыі навуковых і адміністрацыйных установаў. Драматычны лёс незалежных беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў, якія пазбаўлены свабоды слова і дзяржаўнай падтрымкі, ня маюць магчымасьці выкарыстаць свой талент на ўслаўленьне роднай Беларусі.

Таму, з пажаданьнямі здароўя, посьпехаў у працы і асабістага шчасьця, жадаем Вам і нам знакавых перамен па дэмакратызацыі грамадзкага жыцьця ў нашай Бацькаўшчыне – Беларусі.

*Рада Таварыства беларускай культуры ў Літве.*
*сьнежань 2012 год.*

М э л ь б у р н.
Лістапад 2012

Каляднія Віншаваньне.

Паноўныя беларускія грамадзяне !

Ўсувязі з надыходзячымі Важнымі Сьвятамі,гэта Сьвятымі Калядамі і Новым 2013 Годам,наш скромны Беларускі Цэнтральны Камітэт ў Вікторыі ў Аўстраліі,жадае Вам ўсяго найлепшага ў Вашым жыцьці: здароў'я,добрага асабістага пачуцьця і веры ў будучыню нашай незалежнай Беларускай Дзяржавы.

Выслано:
-Fiodor Niunka
-Alena Makouskaya
-Anna Surmacova
-Backauszczyzna
-Joanna Survilla

Bielaruski Centralny
Kamitet u Melbourne
u Austfalii

starszynia --J.Borysiewicz
Zastupnik-a.A. Gryцuk

# Вера айцоў

**_Калядны зварот апостальскага візытатара для беларусаў замежжа айца Аляксандра Надсана._**

Дзьве апошнія нядзелі перад сьвятам Нараджэньня Хрыстовага ў бізантыйскім абрадзе носяць назву нядзелі праайцоў і айцоў. У гэтыя дні Царква ўспамінае праведнікаў, якія жылі да нараджэньня Хрыста і былі або Ягонымі продкамі паводле цела, або захавалі вернасьць Богу і веру ў прыйсьце Збавіцеля.

Як гэта бывае часта на сьвеце, жыцьцё іх склалася нялёгка, бо людзі, занятыя сваімі штодзённымі клопатамі, не хацелі іх слухаць. Ім давялося сустрэцца з абыякавасьцю, а часта і з адкрытай варожасьцю і перасьледам. Вось што піша пра гэта аўтар Ліста да Габрэяў: «Некаторыя зь іх зазналі катаваньняў... іншыя цярпелі зьнявагі, бічаваньні, кайданы і вязьніцы. Іх каменявалі, расьпілоўвалі, забівалі мячом; яны туляліся ў авечых і казіных шкурах, церпячы бяду, гора і прыгнёт, — хоць сьвет ня быў варты іх, — блукалі па пустынях, пячорах і зямных ямах» (Габ 11:35-38). І канчае свой аповед: «І ўсе яны, хоць дзеля сваёй веры сталі годнымі пахвалы, не атрымалі абяцанага» (Габ 11:39), гэта значыць не дажылі, каб убачыць прыйсьце Збавіцеля.



*Айцец Аляксандар Надсан*

Ёсьць нешта боскае ў бескарысьлівых учынках для дабра іншых, не чакаючы падзякі.

Бог, які ў сваёй бязьмежнай дабрыні стварыў нас і захацеў стаць адным з нас, ня мае патрэбы ў нашай удзячнасьці, але пачуцьцё ўдзячнасьці неабходнае для нас саміх, бо яно прыходзіць з усьведамленьнем нашага месца ў пляне Божага тварэньня.

Ягоная дабрыня ў адносінах да нас — бескарысьлівая, і калі Ён чакае ад нас пачуцьця ўдзячнасьці, дык гэта перадусім для нашага дабра, як доказ, што наша сэрца на сваім месцы. Некалі псальміст напісаў: «Як гляну на неба, твор рук Тваіх, на месяц і зоркі, якія Ты заснаваў, — дык хто ёсьць чалавек, што Ты пра яго памятаеш, і сын чалавечы, што Ты пра яго дбаеш?» (Пс 8:4-5). Сёньня можам яшчэ сказаць: «Хто ёсьць чалавек, што Ты захацеў стаць адным зь іх?»

Дык хай Бог, які ў сваёй бязьмежнай любові захацеў стаць адным з нас, напоўніць любоўю сэрцы нашыя, каб згінула злосьць і нянавісьць і каб мы ўсе сталі адной сям'ёй і маглі разам усклікнуць: «Слава на вышынях Богу, супакой на зямлі, добрая воля сярод людзей!»

# Ліст з Сомэрсэту

*2012 г., канец сьнежня*

ДАРАГІЯ НАШЫ!

Зямля круціцца не дарма: вяртаньнем на тое самае месца мы прыпамінаем сабе, што мы не адны ў гэтым сьвеце, што ў нас ёсьць сваякі й сябры, безь якіх жыцьцё выглядала б шэрым існаваньнем. А нам жа патрэбна, асабліва ў сьвяточныя дні, адчуваньне супольнасьці, якое дае нам душэўны камфорт.

Мінулы год быў для нас зусім не благім. А гэта таму, што ў нашым пажылым веку чалавек жыве насьцярожана, з настырлівай думкай: а хоць бы чаго ня сталася са мной!!! Навокала ж ад аднагодкаў толькі й чуеш ойканьне ды оханьне. Гэта значыць, што калі са здароўем у цябе менш-больш окей, дык на што ты будзеш наракаць? На гады? На Зямлю, што круціцца? Найлепшы сродак ад нараканьня – занятак справамі. Вось гэта мы й рабілі: хадзілі ў спартовы клюб (двойчы на тыдзень); сьпявалі ў царкоўным хоры; кожнае пятніцы засядалі за наш стол зь Нікам і Ірай Дуткамі, а часта й Вітаўтам Кіпелем ды Валяй Трыгубовіч, каб -- пасьля Надзіных кулінарыйных ласункаў – абмеркаваць далейшае апрацоўваньне мае кніжкі пра беларускія фэстывалі (дарэчы, гатовае ўжо да друку) ды БІНіМаўскія праекты. Апрача ўсяго іншага, у нас з Надзяй даволі вялікая сувязь, кампутарная й тэлефанічная, зь сям'ёй, знаёмымі, а часта й зь незнаёмымі, што зьвяртаюцца з пытаньнямі, прапановамі або просьбамі, якія ў меру магчымасьці стараемся задавольніць .

Але найбольшай падзеяй году было наша падарожжа ў Ізраіль і Палестыну, у Сьвятую Зямлю (28.X – 5.XI). Яно сталася фантастычным калейдаскопам вобразаў, сцэнаў ды ўражаньняў, якія, як пчаліны рой, мітусяцца цяпер у галаве ды сталіся тэмай нашых застольных гнутарак.

Езьдзілі мы з групаю прыхаджанаў Карпата-рускай праваслаўнай царквы. У групе налічвалася 22 асобы, у тым ліку два сьвятары. Мы пабылі на Галілейскім моры, дзе апосталы лавілі рыбу; акунуліся ў раку Ярдан, дзе сьв. Ян хрысьціў Ісуса; наведалі Кану Галілейскую, дзе Хрыстос ператварыў ваду ў віно; Назарэт, адкуль Ён быў родам; Віфлієм, дзе Ён нарадзіўся; Гару Спакусаў, дзе Ён пасьціў 40 дзён і дзе д'ябал спакушаў Яго. А ў Ерусаліме пабылі на Аліўкавай гары, дзе Ён маліўся й дзе Юда даў Яму пацалунак; пабачылі пячорную турму, у якой Яго зьняволенага трымалі; прайшлі па Ягоных сьлядах (Крыжовы Шлях) на Галгофу; памаліліся ў царкве Гроба Гасподняга, пабылі ў царкве й манастыры імя Хрыстовае малітвы “Ойчы наш”, дзе на сьценах разьмешчаны тэксты гэтае малітвы на 140 мовах (набылі там сувэнірныя таблічкі й зь беларускамоўным “Ойча наш”); ды наведалі добрых два дзясяткі іншых рэлігійных і гістарычных аб'ектаў.

Ізраіль -- своеасаблівая й цікавая краіна, можна сказаць – унікальная, бо як ніякая іншая густа насычаная эпахальнымі падзеямі ды людзкой драмай. Ізраільцы, трэба прызнаць, ад часу здабыцьця незалежнасьці ў 1948 годзе зрабілі вялізарны ўклад ва ўдасканаленьне сваіх земляў ды разьвіцьцё сельскай гаспадаркі. Зусім інакш, на жаль, бедна й запушчана, выглядаюць гарады й пасёлкі на акупаванай палестынскай зямлі Заходняга Берагу, куды мы заяжджалі, каб пабачыць і там гістарычна-рэлігійныя аб'екты. Зьведваньне было інтэнсыўнае: позна кляліся й рана ўставалі ды ўвесь дзень былі ў дарозе, абедаючы ў тым ці іншым рэстаране. Так што нашы з Надзяй заняткі гімнастыкай вельмі прыдаліся. Падрабязьней пра паломніцтва – у іншым лісьце, пасьля таго як разьлічуся з выданьнем фэстывальнай кніжкі.

Цяпер пачынаем думаць-гаварыць пра яшчэ адну “Сьвятую Зямлю” – падарожжа ў Беларусь, можа й апошняе. У наступным годзе мае адбыцца чарговы зьезд беларусаў сьвету, дык падвойная прычына наведаць сваякоў, сяброў і Бацькаўшчыну. Пытаньне толькі, ці дадуць візу, бо ашнім часам пачалася акцыя караньня актывістаў беларускага жыцьця на Захадзе адмовай візы.

Але як бы там ні было, сувязь наша застанецца непарушнай, бо яна дае нам радасьць і духовае задавальненьне.

З Новым Годам! З Нараджэньнем Хрыстовым! Вясёлых Клядаў!

*Заўсёды вашы —*
*Янка й Надзя*

# Весткі з Вільні

Чарговае паседжаньне Таварыства беларускай культуры адбылося 24 лістапада 2012 .

Уступным словам яго распачаў Алесь Адамковіч, які і быў вядучым імпрэзы. Ён прывітаў гасьцей з Беларусі: літаратуразнаўца і журналіста Міхася Скоблу і вядомага дасьледчыка гісторыі беларускай культуры, літаратуразнаўца, архівіста і пісьменьніка Язэпа Янушкевіча.

Найпершай падзеяй, што прыпадае на лістапад, вядучы назваў сьвяткаваньне угодкаў Слуцкага збройнага чыну. З гэтай нагоды старшыня ТБК Хведар Нюньк зачытаў Зварот Прэзідэнта Рады БНР сп. Івонкі Сурвіллы.

Міхась Скобла прысьвяціў свой выступ постаці Зоські Верас:

“Беларусы па абодва бакі мяжы ў даўгу перад Людвікай Антонаўнай Войцік. Гэта яна надрукавала свой першы твор яшчэ ў 1907 годзе – усяго на два гады пазьней за Янку Купалу, а аўтарам легендарнай “Нашай нівы” стала ў 1911-м. Гэта яна ў 1916 годзе прывячала ў Менску Максіма Багдановіча, які абяцаўся пісаць ёй зь Ялты. Гэта яна на ўсё жыцьцё запомніла, як бальшавікі ў сьнежні 1917-га разганялі ў Менску І Усебеларускі кангрэс. Гэта яна за свае сьціплыя заробкі ў 1928 годзе выдала паэтычны зборнік Міхася Машары “Малюнкі” і толькі за гэта заслугоўвае ня меншай пашаны, чым Магдалена Радзівіл – фундатарка неўміручага “Вянка”. Гэта яна рабіла і выпускала ў сьвет часопісы для дзяцей “Заранка” і “Пралескі”, а для дарослых – месячнік “Беларуская борць”, якім карысталіся пчаляры па ўсёй Заходняй Беларусі. Гэта яна склала і выдала ў 1924 годзе знакаміты “Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік”, у які і сёньня не зашкодзіць зірнуць самым дасьведчаным лексыкографам, каб даведацца, як праўдзіва на роднай мове называецца тая ці іншая расьліна. Гэта яна, ведаючы пра пільнае цэнзураваньне дванаццацітомавай “Беларускай савецкай энцыкляпэдыі”, склала свой уласны рукапісны энцыкляпэдычны даведнік, дзе зьмясьціла жыцьцяпісы Аркадзя Смоліча, Станіслава Грынкевіча, Янкі Багдановіча, Міхася Забэйды-Суміцкага і інш.– двух дзясяткаў выдатных беларускіх дзеячоў, імёны якіх на той час айчынным эцыкляпэдыстам згадваць забаранялася… Зоська Верас – постаць яшчэ не спазнаная і належна не ацэненая. Цяпер я рыхтую да друку яе выбранае. Успамінаў, нарысаў, лістоў назьбіралася на дыхтоўны двухтомавік. З унукам пісьменьніцы Яраславам Войцікам мы зьезьдзілі ў Панарскі лес, на тое месца, дзе стаяла Лясная хатка. Прыкра, што мясцовыя жыхары зрабілі там сьметнік. Трэба было б зладзіць там талаку і прыбраць сьмецьце”.

Наступным выступоўцам быў Андрусь Старавойтаў, які закрануў цікавую тэму — пра асаблівасьці сьвяткаваньня абраду «Дзядоў» на Віленшчыне. Колісь кожны рэгіён меў свае пэўныя рэгіянальныя адметнасьці на Дзяды, а сёньня гэтае сьвята па сутнасьці страчанае. Пачынаючы ад пачатку XX ст. пераважна, ад акупацыі савецкай, сьвяткаваньне забаранялася. Гэта адмоўна адбілася і на стане захаваньня ўсёй беларускай культуры на Віленшчыне.

Як аднавіць тое, што было страчана? Як працягнуць гэтую традыцыю ў будучым? Гэта будзе часткова залежыць і ад віленскіх беларусаў, мяркуе Андрусь Старавойтаў.



Тэму сьвяткаваньня «Дзядоў» працягнуў Артур Юдыцкі, зьвярнуўшы ўвагу як прайшлі яны сёлета ў Менску. Адбыліся пэўныя знакавыя зьмены: «Чаму сёньня прыйшло менш народу чым звычайна?». І што будзе з “Дзядамі” далей:. Ці бальшыня людзей будзе ў будчым ў пераважнай большасьці адзначаць яго на сваіх рэгіянальных могілках, ці будуць зьбірацца разам? Чым станоўчым й знакавым запомніцца сьвяткаваньне Дзядоў-2012 у Менску — гэта тое, што наперадзе калёны з бел-чырвона-белым сьцягам крочыў былы палітзьняволены Сяргей Каваленка.

Чарговы выступоўца, студэнт Эўрапэйскага універсітэта ў Вільні Андрэй Строцаў расказаў пра Паўлюка Багрыма, ад нараджэньня якога ў лістападзе споўніла 200 гадоў. За гэты доўгі час ў багрымазнаўстве былі свае знаходкі (архіўная справа пра «бунт у Крашыне») ды іншыя, якія спарадзілі пытаньне: ці існаваў такі пісьменьнік й чалавек ?

Наступным было прапанавана выступіць Язэпу Янушкевічу, які акурат ў гэтым месяцы лістападзе-2012, да 200-годдзя П.Багрыма выдаў буклет «А ў маскалях трудна жыці…», куды цалкам увайшоў даўні артыкул дасьледніка «Ледзьве здымкі ўратаваў…» з новымі зьвесткамі пра сямейнікаў Паўлюка Багрыма і яго самога. Пераважна гэта былі метрычныя запісы хросту Паўлюка, акты сьмерці ягонай маці і бацькі ды інш. Дакументы ў віхурах XX ст. уратаваў колішні крашынскі пробашч Карусь (Караль) Жураўскі, парабіўшы фотакопіі з архіўных матэрыялаў, а напрыканцы жыцьця пераслаўшы іх у Менск (1988). Вось гэтае новае настолькі было сенсацыйным, што ў многіх «дасьледнікаў» не вытрымалі нэрвы, і яны пачалі адмаўляць Паўлюку ў аўтарстве легедарнага верша «Зайграй, зайграй хлопча малы…». У юбілейным буклеце зьмешчаны чарговыя невядомыя матэрыялы. Ультваючыся ў іх, можна сустрэць частыя згадкі пра старэйшую Багрымаву сястру Ганну і жахнуцца ад таго, што за год да агульнавядомай Крашынскай трагэдыі 1828 г. сямейства Багрымаў перажыло ўласную трагедыю, калі давялося капаць дол для васьмімесячнага Антосіка, а потым для трохгадовай Паўлінкі.... Можа, літаратуразнаўцы па-іншаму прачытаюць радкі славутага верша, даведаўшыся (упершыню) пра драму падлетка Паўлюка. Таму і на трэцім стагодзьдзі ад нараджэньня легендарнага каваля й мастака слова нас будуць хваляваць ягонае паднявольнае жыцьцё і незабітая прага творцы, каб хай не ў слове, забароненым яму для публічнага ўжытку, дык у метале зьвінець голасам неўміручага жаваранка. І чаму дасюль аніводзін мастацтвазнаўства не зьвярнуў увагі, якія выявы адкаваў, бы на дзяржаўнай пячатцы, на сваёй слыннай жырандолі Паўлюк Багрым? Прыгледзьцеся да ілюстрацый ў буклеце: Ці гэта сьвяты Юры? Ці гэта наша сьвятая Пагоня? Легенды, зьвязаныя з імем крашынскага каваля, працягваюць раскрывацца і ў XXI стагодзьдзі, чакаючы сваіх паэтаў...

Паказаў выступоўца прысутным і іншыя выданьні, што выйшлі зь ягоным удзелам: пераклад лістоў Станіслава Манюшкі, рамана Сяргея Пясэцкага «Пяты этап» (падзеі, апісаныя ў ім, часткова адбываюцца ў Вільні),а таксама дзвюхмоўнага паэтычнга зборніка Ул. Някляева «Разьвітальны жэст Жыгімонта» (на беларускай і польскай мовах).

Валеры Радзюкевіч расказаў пра лёс і творчасць Якуба Коласа, якому сёлета ў лістападзе таксама юбілей — 130-я ўгодкі з дня нараджэньня.

Мастак Алег Аблажэй працянуў гаворку пра Якуба Коласа, пра паэму «Новая зямля»: “Я хацеў напісаць артыкул «Забойства Якуба Коласа» - пра тое, як запалохвалі паэта. Магчыма, яго выратавала тое, што ён меў больш пачуцьця гумару, чым астатнія.

Адамковіч Алесь гаварыў пра постаць Міхася Машары — 110 гадоў. «Крэсы змагаюцца», «Сонца за кратамі».

Мастачка з Менску Сьвятлана Радкевіч зачытала вершы Міхася Машары пра 25-е Сакавіка і Ларысы Геніюш «Бабулька».

Хведар Нюнька расказаў пра аўстралійскага беларуса Міхася Раецкага… У гэтым месяцы яму споўнілася б 85 гадоў. Ён доўгія гады вёў бларускую праграму на радыё, таксама гэта рабіў Міхась Лужынскі. Але, цяпер беларускае радыё ў Аўстраліі, пазбаўленае дзяржаўнага фінансаваньня, закрылася. Памерлі і Раецкі і Лужынскі), а новых няма. Пабудавалаі сваю царкву й могілкі, а людзей няма.

*Вільня*
*Лістапад 2012*

# Беларусы на парадзе Санта Клаўсаў у Антарыё

Сярэдзіна і другая палова лістапада -- гэта той час, калі па ўсёй правінцыі Антарыё, а таксама ў іншых частках Канады праходзяць парады Сантаў Клаўсаў, якія адкрываюць зімовы сэзон у гэтай краіне.

Такія парады заўсёды адбываюцца ў суботы і зьяўляюцца сьвятам самых розных народаў, якія пражываюць у Канадзе. Беларусы – не выключэньне, яны, напрыклад, бралі ўдзел на парадзе ў горадзе Місісога, што непадалёк ад Таронта.

Па традыцыі адкрыцьцё зімовага сэзону ў Micicory пачынаецца ў вялікім гандлёвым цэнтры Erin MillsTown Centre. Гэта экспазыцыі самых розных нацыянальных калядных ялінак, што працягваюцца да праваслаўных Калядаў – 7 студзеня,., сустрэчы з самімі Санта Клаўсамі, а таксама героямі розных казак сьвету, пэрсанажамі вядомых мультфільмаў; клоўнамі і танцорамі. Праводзяцца конкурсы калядных вянкоў, сёлета беларускі вянок на парадзе заняў другое месца. Парады Санта Клаўсаў – сямейнае сьвята, якога асабліва чакаюць дзеці. Працягваецца парад зь яго рознымі відовішчамі на гарадзкіх вуліцах.

# Беларускі ў Вашынгтоне

У першай палове сьнежня па запрашэньню ўплывовай амэрыканскай праваабарончай арганізацыі Freedom House ў Вашынгтоне з візытам знаходзіліся старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна, жонка палітвязьня Алеся Бяляцкага Натальля Пінчук і праваабаронца Тацяна Равяка. Яны правялі шэраг сустрэчаў на высокім узроўні, галоўнаю тэмаю якіх былі - свабода слова ў Беларусі і сытуацыя з палітычнымі зьняволенымі.

Візіт гэтых вядомых сваёй актыўнай праваабарончай дзейнасьцю жанчынаў па запрашэньню амэрыканскага боку быў прымеркаваны да другой гадавіны жорсткага разгону шматтысячнай дэманстрацыі ў цэнтры Менску 19 сьнежня 2010 году.



*Тацяна Равяка, Жана Літвіна і Натальля Пінчук у Вашынгтоне*

Прадстаўнікі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня былі запрошаныя і бралі ўдзел у сустрэчы з гасьцямі, якая адбылася 10 сьнежня ў Freedom House. Прэзыдэнт арганізацыі Дэйвід Крэймэр і кангрэсмэн Крыстафэр Сьміт выказалі самую шчырую падтрымку беларускаму дэмакратычнаму грамадзтву ў ягоным змаганьні з дыктатураю. Адбылася актыўная дыскусія на тэмы парушэньня правоў чалавека ў Беларусі, падтрымкі беларускага дэмакратычнага руху з боку заходняга сьвету, пра неабходнасьць дабівацца вызваленьня палітычных вязьняў, якія пакутуюць у беларускіх турмах.

*Ганна Сурмач*

# Дэлегацыя ЭГУ у Нью-Ёрку

Напачатку сьнежня група прадстаўнікоў Эўрапейскага гуманітарнага універсытэта наведала Нью-Ёрк. Як вядома, ЭГУ быў створаны ў Беларусі і цяпер дзейнічае ў Вільні. Яны бралі ўдзел у семінары, які ЭГУ ладзіла разам з Інстытутам Гаррымана Калюмбійскага універсытэта і іншымі арганізацыямі на тэму "Чатыры выбары і пасьлясавецкі сьвет: аналіз і назіраньні выбараў у Грузіі, Украіне, Беларусі і Лiетуве".

Госьці выказалі ініцыятыву сустрэцца з нью-ёркскімі беларусамі і былі ветліва прынятыя 7 сьнежня на сустрэчы, арганізаванай Бруклінскім аддзелам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Адбылося не толькі новае знаёмства, але і зьмястоўная дыскусія на тэму беларускай адукацыі, захаваньня на чужыне сваёй нацыянальнай самасьвядомасьці, пра сытуацыю на Бацькаўшчыне.

Сяброўка управы Бруклінскага аддзелу д-р Ала Орса Рамана ў сваім прывітальным выступе адзначыла важнасьць дзейнасьці ЭГУ, але падкрэсьліла, што, на жаль, яго не можна назваць беларускай навучальнай установаю, бо працоўнымі мовамі там ёсьць расейская і ангельская. Такім чынам, працягваецца працэс русіфікацыі беларускай моладзі. Не вывучаецца дастаткова гісторыя і культура Беларусі, без чаго немагчымая якасная падрыхтоўка нацыянальных інтэлектуальных кадраў. Гэта якраз і сталася тэмаю далейшага абмену думкамі. Госьці распавялі пра сістэму навучаньня ЭГУ, пра цяжкасьці, якія перашкаджаюць таму, каб працэс навучаньня адбываўся цалкам па-беларуску. Віцэ-рэктар ЭГУ д-р Дарыюс Удрыс, выкладчыца Тацьцяна Чуліцкая і студэнтка Марыя Сьляпцова таксама адказалі на шматлікія пытаньні прысутных.

Нью-ёркскія беларусы распавялі гасьцям пра дзейнасьць беларускіх арганізацыяў у Амэрыцы, пра гісторыю і сучасную дзейнасьць Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

*Ганна Сурмач*

# Гадавіну Плошчы адзначылі ў Севастопалі

19 сьнежня ў сядзібе Севастопальскага таварыства беларусаў імя М. Багдановіча «Пагоня» адбылася імпрэза прымеркаваная да другой гадавіны падзеяў сьнежня 2010 году ў Менску. Прысутныя агучылі імёны 14 палітзьняволеных, прайшоў малебен за іх вызваленьне.

Сябры суполкі адзначылі , што Плошча прадэманстравала імкненьне беларусаў да пераменаў ў жыцьці краіны і адначасна ілжывасьць і хамскія адносіны ўладаў да народа. Мы гэтага не забудзем і не даруем!

Беларусы Севастопаля патрабавалі вызваленьня палітзьняволеных і выказалі словы павагі і гонару да тых сыноў Беларусі, якія супрацьстаяць рэжыму і асабліва былому вайскоўцу Міколу Статкевічу.

*Старшыня Севастопальскага таварыства беларусаў імя М. Багдановіча «Пагоня» Валер Барташ*



# Дзіцячая старонка

## Ён тут!

Усё падрыхтавана. Momaнт, што Бог чакаў доўгія гады надыйшоў. Бог зьбіраўся сысьці ў сьвет каб дапамагчы свайму народу, як Ён і абяцаў.

Як Ён можа прыйсьці? Як Ён будзе выглядаць? Што Ён будзе рабіць?

Можа горы яму пакланяцца, можа акіяны раз'юшацца, дрэвы запляскаюць у далоні... Але зямля затаіла дух. Ціхутка, як белы сьнег падае на зямлю, калі ніхто ня бачыў і ня ведаў, Ён прыйшоў.

Маладая дзяўчына Марыя, заручаная з Язэпам (Язэп быў пра-пра-пра- пра-пра праўнукам караля Давіда). Аднойчы ангел Габрыэль з'явіўся ў ейным пакоі. Ангел Габрыэль быў асаблівым пасланцом з нябёсаў. Калі яна пабачыла белую сьветлую постаць то вельмі спалохалася.

-Ня бойся, - сказаў Габрыель. – Бог шчасьлівы і задаволены табой!

Марыя зірнула вакол – можа ён размаўляе з некім іншым.

-Марыя, - працягваў Габрыель. – У цябе народзіцца немаўлятка. Ты назавеш яго Ісусам. Ён будзе Божым сынам. Гэта той, каго ўсе чакаюць. Гэта – Збаўца!

Бог, каторы стварыў планеты і запаліў зоркі, і стварыў усё адным сваім словам, зьбіраўся стацца маленькім і прыйсьці ў сьвет немаўляткам...

Чакай, Бог пасылаў немаўлятка каб уратаваць сьвет?

-Як цудоўна, - вымавіла Марыя. Ейная сэрца моцна білася. – Як такое можа быць?

-Хіба нешта можа быць занадта цудоўна для Бога:

Марыя давярала Богу больш, чым маглі бачыць ейныя вочы:

-Я – слуга Бога. Што Ён скажа я зраблю.

Вядома, усё адбылося так, як сказаў ангел. Праз дзевяць месяцаў Марыя ўжо была вельмі блізкая да таго, каб нарадзіць немаўлятка. Яны з Язэпам мусілі ехаць у Бэтлеем (места караля Давіда). Калі яны нарэшце даехалі да Бэтлеему, то высьвятлілася, што ўсе хаты і паколі былі занятыя, аніводнага вольнага ложка для іх ня было. Ім казалі 'мы ня маем месцаў, усё занята.'

Дзе ж яны могуць прыпыніцца? Хутка мусіць нарадзіцца дзіцятка. Яны не змаглі знайсьці анічога, толькі месца ў старым хляве. Там яны і прыпыніліся побач з каровамі, асламі і конямі.

Там, у пуні, сярод курэй і жывёл, ціхай ноччу Бог даў сьвету цудоўны дар: немяўлятка, што зьменіць сьвет, у якім Яно нарадзілася. Божы Сын.

Марыя і Язэп спавілі немаўлятка, каб Яго сагрэць. Яны зрабілі Яму мягкі ложачак з саломкі ў яськях, з якіх звычайна елі і пілі жывёлы. Марыя і Язэп зорылі на немаўлятка і разважалі пра Божы дар, укручаны ў пялюшкі. Яны назвалі Яго Ісус, што значыць 'збаўца'. 'Эмануіл' – што значыць 'Бог з намі', таму што гэта так і было.



## ЦІХАЯ НОЧ

*Словы - Ёзэфа Мора,*
*пераклад Натальлі Арсеньевай,*
*Музыка - Франца Грубэра*

Ціхая ноч, сьвятая ноч!
Сьпіць усё, сьніць даўно.
Толькі Маці Сьвятая ўсьцяж
Ціха ў яськях люляе Дзіця:
«Сьпі, Сыночак малы,
Сьпі, Сыночак малы!»

А ўгары ўсё гарыць
Серабром зорных крыг.
Хор анёлаў пяе пастухом
Аб Дзіцяці, што будзе Хрыстом,
Сьветлай песняй хвалы
Славяць Збаўцу Зямлі.

Ціхая ноч, сьвятая ноч,
У родны край завітай,
Людзям сум і тугу разгані,
Хай жа цешацца ў гэтыя дні,
У ціхую, сьвятую ноч,
У ціхую, сьвятую ноч!

# Каляндар памятных датаў

## Сьнежань 2012

**3 сьнежня** – Міжнародны дзень інвалідаў

**3 сьнежня** - 105 гадоў таму, у 1907 годзе, нарадзіўся Рыгор Крушына (Казак), пісьменьнік, грамадзкі дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**4 сьнежня** - 40 гадоў таму, у 1972 годзе, памёр Мікалай Аладаў, кампазітар

**4 сьнежня** – 30 гадоў таму, у 1982 годзе, памёр Аркадзь Качан, грамадзкі дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі

**8 сьнежня** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, расстраляны Ігнат Дварчанін, грамадзка-культурны дзеяч, паэт, педагог

**8 сьнежня** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, расстраляны Антон Грыневіч, зьбіральнік музычнага фальклёру, выдавец, педагог, кампазітар

**9 сьнежня** – 90 гадоў таму, у 1922 годзе, у Гародні адкрыўся гісторыка-археалягічны музэй

**11 сьнежня** – 10 гадоў таму, у 2002 годзе, памёр Сяргей Грахоўскі, пісьменьнік

**18 сьнежня** – 95 гадоў таму, у 1917 годзе, у Менску пачаўся Першы Усебеларускі Кангрэс

**19 сьнежня** – 20 гадоў таму, у 1992 годзе, у Менску пачаўся Першы Сход беларусаў блізкага замежжа

**20 сьнежня** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, расстраляны Васіль Друшчыц, гісторык, Сьцяпан Некрашэвіч, мовазнавец, грамадзкі дзеяч, Міхаіл Піятуховіч, літаратуразнавец, педагог

**24 сьнежня** – 70 гадоў таму, у 1942 годзе, у Трасьцянцы нацыстамі застрэлены Вінцэнт Гадлеўскі, рымска-каталіцкі сьвятар, ідэоляг беларускага нацыянальнага руху

**25 сьнежня** – Каляды (Божае Нараджэньне) паводле грыгарыянскага календара

**26 сьнежня** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, у Новасібірску расстраляны Мікола Касьпяровіч, краязнавец

**26 сьнежня** – 55 гадоў таму, у 1957 годзе, памёр Юры Сабалеўскі, палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**28 сьнежня** – 85 гадоў таму, у 1927 годзе, у Вільні пачаўся Першы зьезд Таварыства беларускай школы

**30 сьнежня** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, расстраляны Аляксандр Цьвікевіч, палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст

## Студзень 2013

**1 студзеня** – 80 гадоў таму, у 1933 годзе, у Вільні выйшаў першы нумар газэты "Родны край", орган Таварыства Беларускай Асьветы

**2 студзеня** – 85 гадоў таму, у 1928 годзе, нарадзіўся Уладзімір Цьвірка, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі, Бэльгіі і Нямеччыне, журналіст

**3 студзеня** - 105 гадоў таму, у 1908 годзе, нарадзіўся Мікола Нікан, настаўнік, вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Аўстраліі

**6 студзеня** – 70 гадоў таму, у 1943 годзе, памёр Антон Неманцэвіч, уніяцкі сьвятар, царкоўны дзеяч

**6 студзеня** – 50 гадоў таму, у 1963 годзе, памёр Андрэй Аляксандровіч, пісьменьнік

**7 студзеня** – Нараджэньне Хрыстова (Каляды па праваслаўным каляндары)

**8 студзеня** – 70 гадоў таму, у 1943 годзе, памёр у савецкім канцлягеры Янка Бабровіч, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху, публіцыст

**13 студзеня** – 520 гадоў таму, у 1593 годзе, памёр Сымон Будны, мысьляр эпохі Адраджэньня, асьветнік, друкар

**14 студзеня** – 120 гадоў таму, у 1893 годзе, нарадзілася Канстанцыя Буйла, паэтка

**16 студзеня** – 15 гадоў таму, у 1998 годзе, выйшаў першы нумар газэты "Навіны" (працяг газэты "Свабода" пасьля яе закрыцьця)

**21 студзеня** – 195 гадоў таму, у 1818 годзе, нарадзіўся Адам Кіркор, гісторык, этнограф, археоляг, публіцыст, грамадзкі дзеяч

**21 студзеня** – 75 гадоў таму, у 1938 годзе, памёр у савецкім канцлягеры Янка Туміловіч, настаўнік, паэт

**21 студзеня** – 35 гадоў таму, у 1978 годзе, памёр Алесь Салавей, паэт , дзеяч эміграцыі ў Аўстрыі і Аўстраліі

**22 студзеня** – 150 гадоў таму, у 1863 годзе, пачалося нацыянальна-вызвольнае паўстаньне

23 студзеня – 75 гадоў таму, у 1938 годзе, расстраляны ў Саратаве Вацлаў Ластоўскі, грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык, мовазнавец, літаратуразнавец, публіцыст, этнограф

**25 студзеня** – 75 гадоў таму, у 1938 годзе, памёр Тамаш Грыб, грамадзка-палітычны і культурны дзеяч

**28 студзеня** – 425 гадоў таму, у 1588 годзе, зацьверджаны Трэйці Статут Вялікага Княства Літоўскага

**28 студзеня** – 65 гадоў таму, у 1948 годзе, у Буэнас Айрэсе заснавана Згуртаваньне беларусаў у Аргентыне, першы старшыня – Кастусь Мярляк

**29 студзеня** – 135 гадоў таму, у 1878 годзе, нарадзіўся Уладзімір Самойла, публіцыст, літаратурны крытык, філёзаф

**31 студзеня** – 100 гадоў таму, у 1913 годзе, памёр Баляслаў Русецкі, мастак

## Віншаваньне

15 лістапада свой першы шаноўны 10-гадовы юбілей адзначыў Беларускі культурна-асьветніцкі цэнтар у Познані, які сваёй актыўнай дзейнасьцю стаў шырока вядомым не толькі ў Польшчы, але і ў цэлым беларускім замежжы. З гэтай нагоды віншуем усіх сяброў арганізацыі і зычым ім далейшых посьпехаў у іхнай патрыятычнай, адданай працы дзеля пашырэньня інфармацыі пра беларускую культуру і гісторыю ў сьвеце.

*Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня*

## Віншаваньне

У лістападзе меў юбілей ад дня народзінаў актыўны ўдзельнік беларускага жыцьця ў Канадзе сп. Ягор Федзюшын. З гэтай нагоды даслалі віншаваньне юбіляру ягоныя сябры з Таронта:

Уладыка Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Сьвятаслаў і Рада Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага віншуюць спадара Ягора Федзюшына з народзінамі і зычаць шчасьця.

*Жывіце ў шчасьці і любві !*
*Лавіце сонейка і славу!*
*Хай Вам сьпяваюць салаўі*
*І атуляюць мякка травы!*

*Здароў'я, радасьці, цяпла!*
*Сьвятла, лагоднасьці, пяшчоты!*
*Каб доля матынькай была*
*І адганяла ўсе гароты!*

# “Азіраючыся расой выетымі вачыма”



Такую арыгінальную назву даў сваім успамінам адышоўшы ад нас напрыканцы студзеня мінулага году сп. Барыс Данілюк . Здаецца зусім нядаўна са смуткам мы праводзілі яго ў той незваротны шлях у вечнасьць, а прабегла ўжо амаль два гады і гэтага часу хапіла на тое, каб пабачыла сьвет ўжо надрукаваная ягоная кніга. Зроблена гэта дзякуючы, найперш, намаганьням ягонай удавы сп. Марыі.

У апошнія гады жыцьця, будучы ўжо цяжка хворым, сп. Барыс сьпяшаўся занатаваць пражытае і перажытае на ягоным зусім не лёгкім жыцьцёвым шляху. Яму было што распавесьці тым, каго цікавіць гісторыя свайго народу і краіны. Ён нарадзіўся ў 1923 годзе ў Заходняй Беларусі, што знаходзілася ў міжваенны час пад Польшчаю. Бацька - Тодар Данілюк быў актыўным удзельнікам Слуцкага паўстаньня і гэты факт прадвызначыў жыцьцёвы лёс сп. Барыса. Ён вырас ў сямі беларускага патрыёта і адданасьць беларускай справе была пуцяводнаю зоркаю цэлага ягонага жыцьця, ад маленства і да апошняга ўздыху.

Для мяне асабіста было надзвычай цікава чытаць кнігу, бо я сама родам з тых мясьцінаў на Гарадзеншчыне, дзе праходзіла дзяцінства і юнацкія гады сп. Барыса. Слонім, Баранавічы, Дзярэчын – даваенная жыцьцё заходнебеларускіх гарадоў і мястэчак, дзе нацыянальнае жыцьцё з цяжкасьцю прабівалася з-пад цяжару абмежаваньняў, забаронаў, перасьледаў з боку польскіх уладаў. А потым вайна, нямецкая акупацыя, новыя небясьпекі і страчаныя надзеі. Усё гэта праз лёс канкрэтнага чалавека, які не толькі па свойму ўспрымаў сьвет, але і здольны быў аналізаваць падзеі і прымаць рашэньні, дзе і каму служыць, чым займацца ў гэтых складаных жыцьцёвых абставінах. Трэба было будаваць сваё маладое жыцьцё і думаць, што можна рабіць карыснага для Бацькаўшчыны, час патрабаваў беларускіх патрыётаў. Яны кінуліся адбудоўваць беларушчыну, зрабілі , што змаглі. Але, перад большай сілаю мусілі адступіць і пайсьці ў выгнаньне. Пакідаў родныя мясьціны сп. Барыс з бацькоўскай сямьёю і са сваёю ўласнаю. Разам з маладою жонкаю Марыяю яны чакалі свайго першынца, які нарадзіўся па дарозе на чужыне. Цяжка нават уявіць, што давялося перажыць у гэты час маладым бацькам, калі з немаўляткам на руках яны мусілі перажываць усе страхі вайны, голад і холад. Але, лёс быў літасьцівы да іх, ўсёй сямы ўдалося выжыць і пасьля Нямеччыны пераехаць за акіян.

У Амэрыцы Барыс і Марыя Данілюкі пражылі разам доўгае шчасьлівае жыцьцё, вырасьцілі дваіх дзяцей і бралі самы актыўны ўдзел у жыцьці беларускай эміграцыі. Лёс дараваў сп. Барысу магчымасьць і час запісаць свае ўспаміны. Ён меркаваў зрабіць іх у двух частках – жыцьцё на Бацькаўшчыне і на эміграцыі. Другую частку цалкам скончыць не давялося. Сп. Марыя ўпарадкавала напісанае, перадала ўсё для падрыхтоўкі кнігі Лявону Юрэвічу і фінансавала друк. Кніга выйшла ў Менску ў выдавецтве “Лімарыус” у гэтым 2012 годзе (Барыс Данілюк. Азіраючыся расой выетымі вачыма.Успаміны).

Напісаныя ўспаміны жывой, цікаваю моваю, якая мае сваю адметнасьць і ярка выяўляе характар аўтара, ягонае імкненьне па свойму ўспрымаць рэчы і іх моўнае вызначэньне. Але, галоўнае, што ў кнізе шмат карыснай інфармацыі, новых фактаў для дасьледчыкаў і ўсіх нас, каму хочацца больш ведаць пра той складаны перыяд гісторыі непасрэдна ад сьведкаў таго часу.

А мне асабіста запалі ў душу радкі аўтра напачатку кнігі – прысьвячэньне ягонай працы дарагім яму людзям. Тры Марыі асьвячалі ягонае жыцьцё – Божая Маці Марыя, абраз з выяваю якой быў знойдзены ў Жыровічах каля Слоніму, ягоная любасная ўзгадавальніцы - уласная маці Марыя, жонка Марыя – каханьне ягонага жыцьця і цярплівая спадарожніца і жыцьцёвы ўзор і настаўнік – ягоны бацька Тодар. Выказанае ўзьнёслымі, высокімі, паэтычнымі словамі, гэтае прысьвячэньне гучыць як песьня песьняў.

*Ганна Сурмач*




# У Беларусі створана Братэрства арганізацый студэнцкага самакіравання

5 кастрычніка ў Мінску адбылася міжнародная канферэнцыя, прысьвечаная разьвіццю студэнцкага самакіраваньня. Арганізатарам форума выступіла грамадзкая арганізацыя “Грамадзянскі форум”. У канфэрэнцыі бралі ўдзел лідэры студэнцкага самакіраваньня з Беларусі і госьці – кіраўнікі асацыяцый і студэнцкіх парлямэнтаў з Літвы, Нарвэгіі, Украіны і Расеі.

Вынікам дзейнасьці форума было стварэньне Асацыяцыі - Братэрства арганізацый студэнцкага самакіравання (БАСС). Як зазначыў адзін з заснавальнікаў арганізацыі – студэнт гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта Аляксандр Луцэвіч: “Ідэя стварэння Асацыяцыі вісела ў паветры ўжо вельмі даўно, бо Беларусь засталася апошняй краінай Эўропы, дзе не было падобнай аргнізацыі. Так і было вырашана актывістамі студсамакіравання, што настала пара яе стварыць!” Паводле ягоных словаў, мэта ў БАСС адна – садзейнічаць развіццю студэнцкага самакіраваньня ў Беларусі.

“На дадзены момант у нас ёсць шмат праблем: гэта і фінансавая незабяспечанасьць, і, што горш за ўсё - недавер з боку адміністрацый універсітэтаў, бо нашая арганізацыя створана "зьнізу", а не спушчана ад улады. Але мы робім тое, што можам - і нам удаецца паступова рухаць гэты камень з месца: праводзяцца семінары па розных аспектах студэнцкага лідэрства, нашыя валанцёры дапамагаюць ладзіць студэнцкія мерапрыемствы і г.д. Таму, несумненна, імпульс наперад студэнцкаму самакірваньню мы надаем і гэта галоўнае” – падсумаваў Аляксандр.

*Яўген Гаць*

# “Ды яшчэ Беларусь не памерла!...”

У кожнага з нас ёсць свая Малая Радзіма - горад, дзе мы нарадзіліся і выраслі, горад, з якім звязаны прыемныя ўражанні і ўспаміны. Маёй Малой Радзімай з'яўляецца Гродна - горад з аўрай і душой, якія нараджаюцца з асаблівай гістарычнай атмасферы і багатай літаратурнай спадчыны горада.

Літаратурны небасхіл Гродзеншчыны зіхаціць многімі яркімі імёнамі. Тут жылі і тварылі многія, каму быў дараваны талент пісьменніцтва. Аднак званне літаратурнай апякункі Гародні па праву належыць Данусе Бічэль-Загнетавай, якой 1 студзеня 2013 года спаўняецца 75 гадоў. Паэтка адна з першы, хто адкрыў паэтычную Гродзеншчыну для Беларусі так, як бачым яе мы - карэнныя гродзенцы.

Данута Янаўна Бічэль-Загнетава нарадзілася 1 студзеня 1938 года ў весцы Біскупцы Лідскага раена Гродзенскай вобласці. У 1957 годзе скончыла Навагрудскае педагагічнае вучылішча, а ў 1962 годзе - філалагічны факультэт Гродзенскага педінстытута. Працавала настаўнікам беларускай мовы і літэратуры ў школе №5 г. Гродна, Гродзенскім гістарычна-археалагічным музеі, Музеі Максіма Багдановіча ў г. Гродна, сакратаром абласной арганізацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У канцы 1980-х гг. прымала актыўны ўдзел у грамадскім руху, з 1988 года член Беларускага Народнага Фронту. Член беларускага ПЭН-Цэнтра.

Друкуецца з 1958 года. Аўтар зборнікаў паэзіі “Дзявочае сэрца” (1961), “Нёман ідзе” (1964), “Запалянкі” (1967), “Доля” (1972), “Ты - гэта ты” (1976), “Браткі” (1979), “Дзе ходзяць басанож” (1983), “Загасцінец” (1985), “Даўняе сонца” (1987), “А на Палессі” (1990), "Божа, мой Божа" (1992), “Снапок” (1999), “На белых аблоках сноў” (2002), “Стакроткі ў вяночак Божай Маці” (2004).

Напісала паэмы і кніжкі вершаў для дзяцей: «Перапёлка» (1968), «Грыб-парасон» (1969), «Дзічка» (1971), «Рыжая палянка» (1971), «Дагані на кані» (1973), «Лузанцы» (1982), «Габрынька і Габрусь» (1985), “Хадзі на мой голас” (2008).

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларускай ССР за кнігу вершаў «Дзе ходзяць басанож» (1984).

Біяграфія пісьменніка - гэта, першы за ўсё, яго вершы. Талент Дануты Янаўны шматгранны як наша жыццё. Яе вершы як адлюстраванне жыцця чалавека ва ўсёй яго разнастайнасці - ад дзіцячых усмешак да слёз старцы, ад пачуцця патрыятызму да пачуцця болю за лёс Радзімы. Верш "Супольна" з'яўляецца маім любімым ў творчасці Дануты Бічэль-Загнетавой за эмацыйнасць, за актуальнасць паднятых пытанняў. Дадзены верш як ніякі іншы адлюстроўвае думкі маёй душы:

*Люд вакол абязмоўлены свойскі.*
*З кім жа шчырае слоўца замовіць?*
*Ці ў нябёсах на матчынай мове*
*размаўляеш, Кастусь Каліноўскі?*

*Ты на вісельню йшоў за Радзіму,*
*ды яе выракаюцца дзеці.*
*Дыялект свой — дыямант праўдзівы —*
*выкідаюць з застрэшкаў на смецце.*

*Ім наўме толькі скокі ды гулі.*
*Вёскі мруць, не запальваюць печаў.*
*На нябёсы ўзыходзяць бабулі,*
*хто малітву шторані́цы шэпча.*

*У Мсціслаўлі, Навагрудку, Вільні*
*шчэ відушчыя словы, як духі.*
*Над страхою кассё і цапільна...*
*У нябёсы рывок ад задухі.*

*Бунтаванне каціласа валам*
*па збунтованых рэках і путчах.*
*Кастусю, як цяпер нефармалам,*
*бракла часу даслухаць відушчых.*

*Калі чуць толькі ўласнае сэрца,*
*лепш стрымаць яго, каб не грымела.*
*Ды яшчэ Беларусь не памерла!*
*Шчэ супольна сямейка збярэцца!*

У дадзеным вершы аўтар падымае пытанні, якія з'яўляюцца актуальнымі для Беларусі ўжо не адно дзесяцігоддзе - пытанне роднай мовы і самавызначэння. З жалем даводзіцца адзначыць, што беларусы ў большасці сваёй абыякавы да роднай мовы.

На маю думку многія маладыя беларусы памылкова не лічаць родную мову важнай для існавання нацыі. Аднак рана ці позна, мы ўсе павінны будзем зразумець, што захаванне мовы з'яўляецца неабходнасцю, якая ствярае мост да нацыяльнальнай самасвядомасці, ды гістрычнай памяці. Нацыянальнае абуджэнне немагчыма без адраджэння занядбанай мовы. Пакуль жыве мова – жыве нацыя!

У дадзеным вершы нездарма згадваецца імя Кастуся Каліноўскага. Ен выступае як ідэал змагара за Айчыну. К. Каліноўскі значна адрозніваўся ад сваіх суайчыннікаў. Яго мысленне было шырэй, ен думаў катэгорыямі краіны, нацыі, мовы. Па-мойму менавіта да такога ладу мыслення павінен імкнуцца кожны неабыякавы беларус. Кожнаму з нас варта стаць змагаром за будучыню Радзімы, за яе нацыянальнае і палітычнае адраджэнне, за свабоду.

Як мне здаецца, вобраз К. Каліноўскага тут мае дадатковую сэнсавую нагрузку. Праз дадзены вобраз малюецца ідэя паўстання з праекцыяй на сучаснасць, падказываючы шлях новым пакаленням беларусаў. Як К. Каліноўскі ў свой час арганізаваў паўстанне для барацьбы за беларускую ідэю, так і мы зараз павінны пастаяць за сябе, пайсці супраць навязанай нам уладамі антыбеларускай палітыкі, абараніць свае права на свабоду.

На мой погляд зараз Беларусі не хапае “сучаснага” К. Каліноўскага - духоўнага і нацыянальнага лідэра, - які як К. Каліноўскі 150 гадоў назад, зробіць усе мажлівае для таго, каб наша краіна стала нацыянальнай і сацыянай.

Зараз Беларусь перажывае цяжкія часы: беларускія ўлады праводзяць палітыку прыгнета беларускай мовы і беларускага народа. Кіраўніцтва краіны ўзяло за практыку парушаць канстытуцыйныя правы і свабоды сваіх грамадзян. Беларускія ўлады свядома і мэтанакіравана "будуюць" мініяцюру Савецкага Саюза на тэрыторыі Беларусі: беларускі бел-чырвона-белы сцяг зменены сцягам БССР, поўным ходам ідзе масавая русіфікацыя насельніцтва, адроджаны савецкія святы і традыцыі, партрэт А. Лукашэнка стаіць побач з партрэтамі В. Леніна і І. Сталіна. З шкадаваннем даводзіцца адзначыць, што беларуская мова, нацыянальнае самавызначэнне і дабрабыт простых людзей не ўваходзяць у зону інтарэсаў кіраўніцтва краіны. Менавіта зараз як ніколі мы павінны трымацца за родную мову, культуру, за свае правы і свабоды. Толькі так агульнымі намаганнямі мы зможам пабудаваць дэмакратычную, моцную і квітнеючую Беларусь.

Верш "Супольна" - гэта грамадзянская пазіцыя паэткі, гэта яе зварот да маладога пакалення беларусаў, гэта думкі, да якіх варта прыслухацца кожнаму з нас. Гэты верш блізкі мне яшчэ таму, што пазіцыя паэткі адносна важнасці беларускай мовы і нацыянальнага самавызначэння цалкам супадае з маімі поглядамі і думкамі. Дадзены верш дае надзею і ўсяляе ўпэўненасць у тым, што нягледзячы на відавочныя спробы ўладаў зламаць дух беларусаў, у Беларусі застаецца шмат людзей, якія будуць да апошняга абараняць свае беларускія карані, родную мову, свае правы і свабоды.

У сваёй паэзіі, у сваёй творчасці Данута Янаўна паказвае тое, што яна верыць у светлую будучыню Беларусі, у адраджэнне беларускага народа.

Данута Бічэль-Загнетава адна з тых людзей, якімі мы павінны ганарыцца, якія з’яўляюцца скарбам беларускай літаратуры. Яна ў жыцці і творчасці стала абаронцай беларускасці, носьбітам волі і незалежнага духу Беларусі. Яе творы прасякнуты крайняй шчырасцю і самааддачай. Яе вершы заслугоўваюць глыбокай пашаны і пакланення перад талентам гэтай простай жанчыны. З Юбілеем, Данута Юнаўна!

*Сяргей Волкаў*
*Флярыда*

# Гісторыя каляднай паштоўкі

Колькі калядных паштовак Вы падпісалі родным і знаёмым на сёлетняе свята Божага Нараджэння? Напэўна, не так ужо і шмат. Прасцей і хутчэй адправіць віншавальную СМС-ку ці патэлефанаваць. Друкаваная паштоўка з пажаданнямі "Вясёлых свят!" успрымаецца сёння хутчэй як настальгічны элемент. А першая калядная паштоўка ўзнікла менавіта з-за ляноты.

Англічанін сэр Генры Коул меў вельмі шмат родных, якіх трэба было кожны год віншаваць з Растом. Па яго просьбе мастак Джон Хорслі ў 1840 годзе зрабіў 40 аднолькавых літаграфій, на якіх была намалявана сям'я сэра Генры за калядным сталом. Па баках змяшчаліся малюнкі на тэму міласэрнасці: Коулы раздаюць бедным адзенне і ежу. Пад малюнкам быў змешчаны надпіс: "Вясёлых Каляд і шчаслівага Новага года!" Родным сэра Генры такое віншаванне вельмі спадабалася. У 1843 годзе з літаграфіі была надрукавана тысяча паштовак – гэта былі першыя калядныя паштоўкі ў свеце. Дарэчы, з тае тысячы сёння ў свеце засталося ўсяго толькі 12 штук.Хутка мільёны калядных паштовак з напісанымі пажаданнямі пачалі дасылацца па ўсім свеце. Як лічыць старэйшы навуковы супрацоўнік Гродзенскага музея гісторыі рэлігіі Галіна Хамко, па малюнках на калядных паштоўках можна прасачыць усю гісторыю святкавання Божага Нараджэння. Так, напрыклад, вельмі распаўсюджаны малюнак на паштоўцы – упрыгожаная ёлка на плошчы –



з'явіўся толькі ў канцы XIX ст. Акурат у той час былі вынайдзены электрычныя лямпачкі, якія пачалі вешаць на ёлку на цэнтральнай плошчы.

Таксама цікавая гісторыя паштовак з выявай св. Мікалая. Вобраз гэтага Святога быў вельмі папулярным на паштоўках, бо менавіта ён прыносіў дзецям падарункі, падкідваючы іх у панчохі ці шкарпэткі. Па паданні, св. Мікалай жыў у IV ст. і дапамагаў бедным. Але ён не хацеў, каб людзі бачылі, хто ім дапамагае. Спачатку св. Мікалай падкідваў манеты ў вакно, а калі рабілася холадна, – у камін. Каля печы ці каміна сушыліся чаравікі і панчошкі, куды і траплялі грошы, а пасля і падарункі. Адсюль і з'явіўся звычай складваць калядныя падарункі ў панчохі. Да XIX ст. св. Мікалай маляваўся ў адзенні біскупа. Пазней, ужо ў XX ст, амерыканцы "пашылі" Святому новы касцюм, больш зручны для перамяшчэння па горадзе – св. Мікалая апранулі ў чырвоныя штаны і чырвоную куртку. Св. Мікалай на паштоўках набыў больш свецкі выгляд. Пачало ў нас ужывацца і амерыканскае імя Санта Клаус.

Паштоўкі адлюстроўвалі змену моды і стыляў. Напрыклад, ёлка на каляднай паштоўцы ў XX ст. выглядала інакш, чым у XIX ст. Было вырашана, што ёлка са шматлікімі ўпрыгожваннямі і ліхтарыкамі выглядае безгустоўна і трэба пакінуць на ёй толькі два колеры: напрыклад, белы і серабрысты ці залацісты, што і адлюстравалі калядныя паштоўкі. У XX ст. пачалі з'яўляцца таксама і музычныя паштоўкі.

«Тэксты віншаванняў на старых паштоўках практычна нічым не адрозніваюцца ад цяперашніх, – кажа Ян Лялевіч. – І сто гадоў таму людзі жадалі адзін аднаму шчасця, здароўя і радасных свят».

*Алеся Бяленік*
*(slowo.grodnensis.by)*

---

**Царкоўная Рада Сабору Сьвятога Кірылы Тураўскага**
віншуе шаноўнага парафіяніна Алеся Міцкевіча са сьвятам Калядаў. Мы жадаем Вам здароў'я, радасьці ў гэты ьветлы дзень Божага нараджэньня, смачнай куцьці, міра і дабрабыту Вам і Вашым родным.

---

**Царкоўная Рада Сабору Сьвятога Кірылы Тураўскага**
віншуе шаноўнага парафіяніна Юрыя Касьцюкевіча са сьвятам Калядаў. Сьвяточнага настрою Вам і Вашым родным ў гэты радасны дзень Божага нараджэньня, смачнай куцьці. Здароў'я Вам!

---

**ПЯТРУСЬ КАПЧЫК** З УКРАІНЫ ШЧЫРА ВІТАЕ СПАДАРЫНЮ ЛІЗУ ЛІТАРОВІЧ ,СПАДАРСТВА НАДЗЕЮ І ЯНКУ ЗАПРУДНІКАЎ З КАЛЯДАМІ І НОВЫМ,2013 ГОДАМ! ШЧАСЬЦЯ Ў ЖЫЦЬЦІ,ПОСЬПЕХАЎ У СПРАВАХ,МОЦНАГА ЗДАРОЎЯ НА ЎВЕСЬ ГОД!!!

---

**ГУРТ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ «ЗОРКА ВЕНЕРА»**
З УКРАІНСКАГА ГОРАДУ ІЗЯСЛАВА ВІТАЕ СПАДАРЫНЮ ГАННУ СУРМАЧ, УВЕСЬ КАЛЕКТЫЎ ГАЗЕТЫ"БЕЛАРУС" З КАЛЯДАМІ І НОВЫМ ГОДАМ! МЫ ЎДЗЯЧНЫЯ ВАМ ЗА ЦІКАВУЮ ПА ЗЬМЕСТУ ГАЗЕТУ І ЯЕ ДАСЫЛ СА ЗША НАМ У ІЗЯСЛАЎ НА ЎКРАІНУ! АСАБІСТАГА І СЯМЕЙНАГА ВАМ УСІМ ШЧАСЬЦЯ, ПОСЬПЕХАЎ У ТВОРЧАСЬЦІ І ЎСІХ ІНШЫХ СПРАВАХ, МОЦНАГА ЗДАРОЎЯ!

**ЖЫВЕ БЕЛАРУС! ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!!!**

---

**На выданьне газэты *"Беларус"* ахвяравалі:**

| | | |
|---|---|---|
| Андрэй Бандарчук - | $ | 100 |
| Сільвестр Будкевіч - | $ | 50 |
| Анатоль Занковіч - | $ | 100 |
| Сяргей Волкаў - | $ | 50 |
| Алесь Кот - | $ | 100 |
| Алена Літоўка - | $ | 50 |
| Пётра Мурзёнак - | $ | 50 |
| Міхась Нагорны - | $ | 50 |
| Элеанора Норык - | $ | 50 |
| Віктар Пайлак - | $ | 50 |
| Зьміцер Радушковіч - | $ | 50 |

**Выказваем самую шчырую падзяку ахвярадаўцам, дзякуючы вашай дапамозе выданьне можа жыць надалей!**

---

**Дарагія чытачы!**

Ад імя Рэдакцыі газэты "Беларус" выказваем падзяку ўсім вам, хто спычыніўся да падтрымкі газэты ў адыходзячым годзе – дасылаў нам свае артыкулы, інфармацыі, фотаздымкі, дасылаў так патрэбныя нам фінансавыя сродкі. Дзякуючы вам газэта змагла выходзіць у сьвет і тым самым падтрымаць беларускае жыцьцё ў замежжы і нашую супольную працу дзеля Бацькаўшчыны.

Віншуем вас са Сьвятамі Божага Нараджэньня і прыходу Новага году! Жадаем каб вы засталіся нашымі чытачамі і супольнікамі і надалей, каб стараліся падтрымліваць нашу-вашу газэту. Посьпехаў вам, добрага здароўя і добрага настрою ў далейшым жыцьці.

***Да сустрэчы ў новым 2013 годзе!***

---

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
***Belarusan American Ass'n, Inc.***

**Склад Рэдакцыі:**

Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)

Алена Высоцкая - адказная за кампутарную вёрстку

Андрусь Падлескі – сябра рэдакцыі

Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)

Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com

Валеры Дворнік - адказны за друк

Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**

Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

*Грашовыя чэкі выпісваць на імя:*
***BIELARUS newspaper***
*дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.*

Электронны адрас (email):
**bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*